№ 70 (3913)

9 верасня 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ПАМЯЦЬ

# Слаўся, князь Астрожскі!



Дэмакратычная грамадскасць Беларусі адсвяткавала 500-годдзе Вялікай Перамогі на Аршанскім полі — на тым самым месцы, дзе адбылася бітва паміж маскоўскімі заваёўнікамі і войскамі ВКЛ у сутоку рэчкі Крапіўны і Дняпра, на высокай гары, дзе Найвышэйшы гетман Канстанцін Астрожскі на белым кані стаяў і камандаваў сваім войскам, наносіў смяротныя ўдары ворагам нашай дзяржавы.

8 верасня 1514 года нашаму войску, як ніколі, спрыяла Найсвяцейшая Дзева Марыя. Яна абараняла наш народ літоўскі, адстойвала справядлівасць і праўду. Гэта быў Яе Дзень. І нашы рыцары перамаглі. Яны адстаялі свабоду нашай краіны, незалежнасць нашага народа. Супастаты атрымалі тое, што заслужылі.

...6 верасня 2014 года быў ясны, сонечны, прыгожы дзень, як і ў гістарычнай бітве пад Оршай. І нам ізноў ва ўсім спрыяла Багародзіца. Яе светлы вобраз з малым Езусам на руках быў з намі — абраз Найсвяцейшай Маці Божай Аршанскай. Ён адбіваўся ў водах магутнага Дняпра і струменіўся па ўсёй Вялікай Літве. На гэтым гістарычным полі група мастакоў з творчай суполкі "Пагоня" ўжо каторы дзень праводзіць мастацкі пленэр.

Пад памятным крыжам прайшло святкаванне вялікай даты, вялікай падзеі ў нашай гісторыі. Былі ўзняты харугвы ВКЛ, на якіх былі вобраз Багародзіцы, герб "Пагоня", баявыя прапары 1514 года, нацыянальныя гістарычныя сцягі Вялікай Літвы-Беларусі. Першаіерарх БАПЦ Архіепіскап Навагрудскі і Паўночна-амерыканскі Святаслаў і протаіерэй айцец Леанід Акаловіч учынілі літыю і малебен за палеглых рыцараў і ў памяць пераможцаў.

Затым слова меў доктар гістарычных навук, прафесар Аляксандр Краўцэвіч. Ён распавёў пра ход баявых дзеянняў 8 верасня 1514 года на гэтым полі. Уладзімір Арлоў расказаў, як святкавала Еўропа Вялікую Перамогу беларускай зброі, і пра тое, што напярэдадні юбілею выйшла кніга А.Грыцкевіча "Сцягі Оршы".

Пасля выступленняў адбыўся канцэрт, у якім бралі ўдзел Зміцер Вайцюшкевіч з вайсковай песняй, Сяргей Дзевушаў са сваім гуртом выканаў беларускую народную песню "Бітва пад Воршай". А музыка Скіргайла на дудзе сыграў некалькі сваіх кампазіцый на тэму Вялікай Літвы.

Ля памятнага каменя на беразе Дняпра і Крапіўны была ўчынена непрацяглая малітва, пасля якой усе прысутныя праспявалі гімн "Магутны Божа" і песню "Пагоня" на словы Максіма Багдановіча. А на завяршэнне былі асвечаны камяні з барэльефамі Івана Сапегі, Юрыя Радзівіла і Канстанціна Астрожскага. Усё святкаванне вялася фота- і відэасесія. Былі засведчаны самыя яркія і прыгожыя моманты свята.

А зараз трохі пра паводзіны мясцовых улад Аршанскага раёна. Яны забаранілі нам святкаваць 8 верасня. Але мы і не прасілі ў іх наконт 8-га — падалі заяўку на 6 верасня. Такім чынам, ехалі святкаваць без упэўненасці паспяхова правесці свята. Але ўсё атрымалася проста выдатна. Былі дэлегацыі з Мінска, Барысава, Оршы і Барані. Да помнікаў прынеслі знічкі, кветкі, стужкі і вянкі. Не было аніводнага кіраўніка ні палітычных партый, ні грамадскіх арганізацый ці рухаў. Вядома, што збіраліся прыехаць на поле прадстаўнікі некаторых замежных амбасад, але, відаць, напалохаліся забароны і не прыехалі. Што ж тычыцца мясцовых улад і іхніх ініцыятыў, то загадзя за некалькі дзён былі пастаўлены шлагбаўмы, каб машыны не ехалі далей, быў прывезены і расцярушаны гной і ўзарана поле. Вядома ж, трэба клапаціцца пра харчовую незалежнасць краіны... Па дарозе на поле нас спыніў міліцэйскі патруль і папярэдзіў, што ў Оршу нам ехаць нельга! А калі паедзем — то арыштуюць аўтобус?!.

Мы ж віншуем жыхароў Беларусі з Вялікім святам!

**Мікола КУПАВА,**
**сябра Беларускага саюза мастакоў, намеснік старшыні Грамадскага нацыянальнага аргкамітэта святкавання 500-годдзя Вялікай Перамогі пад Оршай.**

## *Кангрэс — у канцы года?*

Беларуская апазіцыя плануе правесці кангрэс дэмакратычных сіл, на якім вызначыцца са сваім кандыдатам у прэзідэнты, да канца 2014 года, паведаміў намеснік старшыні руху "За Свабоду" **Юрый Губарэвіч.**

*"Калі перамовы ў верасні (наступны раз вырашана сабрацца 19 верасня) завершацца паспяхова, кангрэс магчыма правесці да канца гэтага года ці, у крайнім выпадку, на пачатку 2015-га",* — сказаў ён.

У перамовах адносна вылучэння адзінага кандыдата ў прэзідэнты ад апазіцыі бяруць удзел сем структур: Беларуская партыя левых "Справядлівы свет", Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада), рух "За Свабоду", кампанія "Гавары праўду!", Аб'яднаная грамадзянская партыя, аргкамітэт па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя", Партыя БНФ. У апошніх кансультацыях не змаглі ўзяць удзел прадстаўнікі сацыял-дэмакратаў і "Справядлівага свету".

ДОСЛОВНО




## *Андрей ИЛЛАРИОНОВ, бывший советник президента России: «...Беларусь находится в первой очереди на "воссоединение", на аншлюс"*

"Мы должны набраться психологической смелости и трезво взглянуть на те планы, которые объявлены и опубликованы, на которых настаивают кремлевские пропагандисты и планировщики. Они действительно говорят о новой мировой войне, о борьбе и разгроме англосаксонского мира и прифронтовых государств, об объединении самого большого разделенного народа, о том, какие страны находятся на первой очереди. Среди них, например, в статье "Границы Русского мира" в журнале "Россия в глобальной политике" Игорь Зевелев прямым текстом указывает Беларусь, Казахстан, страны Балтии. Это не мои слова или домыслы. Это планы, которые, к нашему изумлению и шоку, перестают быть просто фантазиями глубоко больных людей, а становятся частью осуществляемой политики... Я просто процитирую часть этой статьи, возможно, вашим читателям будет интересно: *"Сутью этнически окрашенной националистической программы является восстановление географического соответствия между государством и нацией и создание нового политического образования на территории проживания русского и части других восточнославянских народов. Это означало бы воссоединение России, Белоруссии, части Украины и Северного Казахстана".*

Исходя из этого и других написанных в подобном ключе текстов, очевидно, что Беларусь находится в первой очереди на "воссоединение", на аншлюс. И вопрос заключается не в том, будет такая политика осуществляться или нет, а в том, когда она начнет осуществляться и при каких условиях.

Есть основания полагать, что наиболее благоприятными условиями для осуществления такого рода действий будут, например, президентские выборы в Беларуси, уход нынешнего президента Беларуси в силу естественных или иных причин, решение белорусских властей о выходе из Евразийского союза, или, скажем, если белорусские власти либо ваши новые политические силы заявят и начнут движение на сближение с Евросоюзом как в экономике, так и в сфере безопасности".

# А мы — не забудзем!

*Учора, 8 верасня 2014 года, споўнілася 500 год з дня вялікай, знакавай падзеі ў гісторыі Бацькаўшчыны — легендарнай бітвы 1514 года пад Оршай, дзе войска нашай сярэднявечнай дзяржавы Вялікага Княства Літоўскага атрымала трыумфальную перамогу над большай сілай маскоўскіх нападнікаў. Гэта адчувальна ўмацавала пазіцыі і аўтарытэт ВКЛ у Еўропе, а гераізм і ваеннае майстэрства адважных ліцвінскіх ваяроў пад зверхніцтвам Вышэйшага гетмана Княства Канстанціна Астрожскага выклікалі захапленне і ўдзячнасць у многіх еўрапейскіх краінах, дзе, як і нашы прашчуры, шырока і ўрачыста святкавалі перамогу над заваёўнікамі.*

*Гэта было паўтысячы год таму. А сёння?*

**Слова скульптару, сябру ГА "Беларускі саюз мастакоў" Валерыю КАЛЯСІНСКАМУ:**

— Нядаўна вярнуўся з Польшчы. Самае хвалюючае ўражанне і ўзрушэнне атрымаў у Нацыянальным музеі ў Варшаве перад агромністым палатном, прысвечаным славутай Аршанскай бітве, памяць аб якой берагуць і шануюць у краіне-суседцы.

Глядзеў і глядзеў на незвычайную карціну, напісаную невядомым сёння нямецкім мастаком у 1530 годзе па гарачых слядах гістарычнай падзеі 1514 года. Яшчэ былі жывыя многія сведкі і ўдзельнікі таго магутнага, пераможнага для нас змагання з утрая пераўзыходзячай сілай непрыяцельскіх войскаў. Змагаром на полі бою быў і сам мастак. Таму так хацелася разглядаць кожную дэталь на палатне, па-майстэрску і праўдзіва адлюстраваную таленавітым мастаком. Яму ўдалося перадаць не толькі панараму самой бітвы, але, галоўнае, сам яе дух, напружанасць усіх сіл абаронцаў Бацькаўшчыны, іх самаахвярнасць і памкненне да перамогі, якую трэба здабыць нават цаной уласных жыццяў...

Асабліва прываблівае тое, што ўдзельнікі бітвы падаюцца не безаблічнай шэрай масай, а праз увасабленне канкрэтных жывых людзей у самыя вызначальныя моманты бітвы. Добра бачыш выразы іх твараў, на якіх напісана рашучасць абодвух бакоў не саступіць праціўніку. Верх узялі, як вядома, мужныя ліцвінскія рыцары-патрыёты, што баранілі сваю Айчыну, зямлю, дом ад няволі і гібення ў рабстве. Міжволі думаеш: колькі ж пакаленняў людзей з розных краёў, пабачыўшы гэты мастацкі шэдэўр, гартавалі свае патрыятычныя пачуцці, гатоўнасць пастаяць за свабоду і шчасце сваіх народаў, за мір, праўду і справядлівасць на ўсёй зямлі!

А вось беларусы, на жаль, падобнай магчымасці не маюць. Ва ўсе ранейшыя часы гэта свята шанавалася і мела шырокі розгалас, а вось у XX стагоддзі і па сёння пра лёсавызначальную падзею нават згадваць "не прынята" — наогул неаб'яўлены афіцыйны маўчок. Ні дзяржаўных святкаванняў у гонар грандыёзнай гістарычнай даты, ні шырокіх, пры падтрымцы ўлад, навуковых распрацовак і публікацый на гэтую тэму. Як быццам "нічога такога", чым маглі б ганарыцца ў Беларусі і выхоўваць сапраўдных грамадзян, нават блізка не было. Ці не дзікунства: падчас Дня беларускага пісьменства ў Заслаўі (ён супаў са слаўнай юбілейнай датай Аршанскай бітвы, без якой не было б ні такога свята, ні самога нашага пісьменства, ні светача духу Скарыны — самой Радзімы нашай не было б) я не чуў пра тое ні слова.

Між тым многія айчынныя мастакі, энтузіясты-навукоўцы блізка да сэрца бяруць аршанскую тэму. Добра помню, як дзесяць гадоў таму на даволі прадстаўнічай выставе ў рэспубліканскім Палацы мастацтва ў Мінску ў гонар 490-й гадавіны бітвы на р.Крапіўне пад Оршай майстры пэндзля і разца горача гаварылі пра планы годна сустрэць 500-гадовы юбілей незабыўнай у вяках перамогі продкаў над агрэсіўнымі замахамі нападнікаў на нашу Айчыну.

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

БАРОМЕТР

## *Падкінулі капейчыну*

Фінансаванне праграмы развіцця малочнай галіны ў Беларусі павялічана на 5,9 працэнта, да 39,3 трыльёна рублёў.

У адпаведнасці з праграмай развіцця малочнай галіны ў бягучым годзе плануецца рэалізацыя мерапрыемстваў па будаўніцтве, рэканструкцыі і мадэрнізацыі малакаперапрацоўчых арганізацый: ААТ "Бярозаўскі сыраробны камбінат", ААТ "Глыбоцкі малочна-кансервавы камбінат", ААТ "Лепельскі малочна-кансервавы камбінат", ААТ "Пастаўскі малочны завод", ПУП "Мазырскія малочныя прадукты", ААТ "Рагачоўскі малочна-кансервавы камбінат", ТАА "Праймілк ", ААТ "Бабуліна крынка".

## *Няшмат, але прыемна*

Золатавалютныя рэзервы Беларусі, разлічаныя паводле стандартаў МВФ, павялічыліся за жнівень на 80 мільёнаў долараў. Пра гэта паведамляе прэс-служба Нацбанка.

Паводле папярэдніх дадзеных, на 1 верасня 2014 года золатавалютныя рэзервы нашай краіны складаюць 6 мільярдаў 291 мільён долараў. Жнівеньскае павелічэнне зусім не вялікае, але гэта сведчанне таго, што знайшоўся новы ручаёк падтрымкі беларускай эканомікі. Паводле некаторых версій, мы ўжо атрымалі першыя вынікі павелічэння аб'ёмаў паставак у Расію беларускіх харчоў. Нагадаем, што з-за санкцый расійскі рынак адмовіўся ад заходніх прадуктаў. Беларускія вытворцы не ўтойваюць, што паспрабуюць гэтым скарыстацца.

ДЫПКУР'ЕР

## *Генеральнае консульства Беларусі з'явіцца ў Мілане*

Такое рашэнне змешчана ў пастанове Савета міністраў ад 5 верасня бягучага года. Згодна з дакументам, генконсульства павінна быць адкрыта ў 2014 годзе. Міністэрству фінансаў належыць ажыццяўляць фінансаванне расходаў на яго адкрыццё і ўтрыманне ў межах сродкаў, прадугледжаных Міністэрству замежных спраў у рэспубліканскім бюджэце на адкрыццё і ўтрыманне дыпламатычных прадстаўніцтваў і консульскіх устаноў Беларусі за мяжой.

ДТЗ

## *Амаль у тры разы болей, чым у Швейцарыі*

У пераліку на мільён жыхароў у Беларусі за год гіне на дарогах прыкладна 90 чалавек, у Чэхіі — 63, у Швейцарыі — 35.

Закранаючы пытанні барацьбы з п'янымі вадзіцелямі, начальнік рэспубліканскай Дзяржаўтаінспекцыі **Юрый Літвін** адзначыў, што сёлета затрымана на 18% менш аўтааматараў, якія селі за руль нападпітку. На 30% зменшылася колькасць парушэнняў, дапушчаных паўторна на працягу года. Значна скарацілася і колькасць аварый, справакаваных нецвярозымі аўтааматарамі (здзейснена каля 180, хоць у 2010 годзе гэтая лічба, напрыклад, набліжалася да 900). Канфіскавана звыш 260 аўтамабіляў, а таксама адзінак сельскагаспадарчай тэхнікі. У аднаго жыхара Гомеля канфіскаваны адразу дзве машыны.

ТЕМА ДНЯ

## *Польшу призывают создавать совместные предприятия с Беларусью для переработки продукции и последующего сбыта ее на территории России*

Польша лишилась российского рынка сбыта в результате санкций, инициированных Владимиром Путиным 6 августа против стран Европы и США. В данный момент на польских складах скопились тонны продукции, сообщил в эфире ОНТ министр сельского хозяйства и развития сельской местности Польши **Марек Савицкий.**

*"Сейчас мы активно ищем новые рынки, это США и Канада. Конечно, мы заинтересованы и в более тесном сотрудничестве с Беларусью, ведь это наши соседи, но белорусская сторона поставила перед нами определенные условия — входить в Беларусь не просто со своим товаром, перепродавать его никто не будет, а со своими инвестициями и технологиями. Такой же разговор был и с Казахстаном",* — рассказал глава польского ведомства. *"Если мы придем, поможем построить центр переработки, тогда белорусы пустят польское сырье на свой рынок, а Россия купит все, что произведут в Беларуси",* — добавил Савицкий.

ПО ПОВОДУ

*Мария ЭЙСМОНТ*

# Без вины виноватые

Это настоящая сенсация. В конце августа судебная коллегия Верховного суда вынесла оправдательный приговор в отношении бывшего гендиректора ОАО "Беллегпромпроект" Семена Иокши и бывшего директора КУП "УКС администрации Ленинского района Минска" Владимира Чигрина.

В 2006 году они были осуждены за получение взятки. Тогда этот случай получил широкую огласку, о нем писали буквально все СМИ. Еще бы, правоохранительные органы сообщили о самой крупной в истории Беларуси взятке — чиновники за выигрыш тендера на застройку жилого комплекса в Минске потребовали от российской компании "благодарность" в полмиллиона долларов. Но погорели и, как логично вытекало из сообщений правоохранителей, справедливо были осуждены.

А сегодня — тишина. Верховный суд, по сути, признал, что не было никакой взятки, что люди ни за что провели в тюрьме пять с половиной лет, подорвали здоровье. Иокша и Чигрин — не единственные фигуранты этого скандального дела. Заместитель Иокши Николай Толкач умер еще во время следствия от рака, и, возможно, его смерть ускорил именно этот скандал. В общем, в любой другой стране новость о решении Верховного суда не сходила бы со страниц газет и экранов телевизора. А у нас о ней даже не все информагентства сообщили. Хотя — чему удивляться? В Беларуси принято громко рассказывать о "происках оппозиционеров", а о том, что кто-то может оказаться без вины виноватым, — народу знать не обязательно.

Скажу больше: сами потерпевшие в этом деле не хотят никакой огласки. А знаете почему? Потому что этот приговор Верховного суда — второй оправдательный приговор для Иокши и Чигрина.

В 2011 году этих "взяточников" уже оправдывали за недоказанностью участия в совершении преступления и даже отпустили на свободу. Семен Иокша тогда успел и на работу устроиться. А потом вдруг дело закрутилось по новой спирали. При этом что любопытно: совпадение или нет, но Генпрокуратура опротестовала решение оправдательного суда именно в тот момент, когда реабилитированный Иокша подал заявление в суд о признании за ним права на возврат имущества. Ведь у него конфисковали машину, акции предприятия, из дома вынесли буквально все, что можно было, — ковровые дорожки, микроволновку, забрали даже компьютер дочери, на котором она писала дипломную работу... В общем, оправдательный приговор был отменен, и началось новое рассмотрение дела. И в апреле этого года Иокша и Чигрин во второй раз были осуждены и после трехлетнего пребывания на свободе снова отправлены в СИЗО.

Сегодня Семен Иокша говорит, что не будет ни у кого требовать извинений за 1961 день, проведенный за решеткой, за нанесенный ущерб его репутации, не будет добиваться возвращения несправедливо конфискованного имущества. Потому что опасается, что эти его действия могут иметь такие же последствия, как в 2011 году...

На мой взгляд, об этом оправдательном решении Верховного суда должны были писать все СМИ и потому, что это редкий случай для нашей судебной системы (в Беларуси менее 2% выносимых вердиктов отменяются вышестоящим судом). И для того, чтобы простые люди знали о том, как подобные дела разваливаются (то есть — как они стряпаются).

Иокшу и Чигрина в 2006 году осудили за то, что они якобы потребовали взятку от российской компании "Орловские металлы" за победу в тендере на застройку жилого комплекса в Минске. Но еще раньше подобный тендер объявлялся трижды и ни разу не состоялся из-за отсутствия серьезных инвесторов, т.е. желающих строить дома в этом районе Минска не было. Логично предположить, что чиновники должны были радоваться тому, что наконец-то нашлись желающие вложить свои средства в этот проект, должны были обхаживать и ублажать будущих инвесторов, но никак не требовать от них взятку. Как выяснится позже, данная российская компания никогда и не собиралась участвовать в этом тендере и не имела своих представителей в Минске. Просто кто-то, а скорее всего сотрудники правоохранительных органов, изображали российских бизнесменов и навязывали чиновникам взятку, чтобы потом взять их с поличным и отчитаться о том, какую успешную борьбу с коррупционерами они ведут.

Проще говоря, никакие российские бизнесмены не предлагали взятки белорусским чиновникам и все это громкое дело — скорее всего провокация, разработанная правоохранительными органами. Но в 2006 году суд первой инстанции не стал в этом разбираться. В суде даже не были установлены личности так называемых российских бизнесменов. К слову, чемоданчик с 500 тысячами долларов Владимир Чигрин не то что в руках не держал — в глаза не видел. Но был осужден за *покушение на принятие взятки* и получил 10 лет колонии с конфискацией имущества. Семена Иокшу осудили за *организацию принятия взятки должностным лицом.*

...Оптимисты говорят, что правда в жизни всегда торжествует. На что пессимисты отвечают: только жизни, как правило, на это не хватает. Семену Иокше и Владимиру Чигрину жизни хватило. Они победили. Но кто знает, подобная история о получении взятки — единственная ли в череде всех тех скандальных дел о чиновниках-коррупционерах, которые в последние годы захлестнули Беларусь?!

ГУЧНЫЯ СПРАВЫ

# Без тэрміну даўнасці...

*15 гадоў мінае з моманту гвалтоўнага выкрадання палітычных апанентаў Аляксандра Лукашэнкі — Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага... 15 гадоў — гэта менавіта той "тэрмін даўнасці", пасля заканчэння якога, у адпаведнасці з заканадаўствам, злачынцы не могуць быць пакараны. Ці азначае гэта, што вышэйназваныя гучныя крымінальныя справы, як і іншыя, будуць канчаткова спісаны ў архіў?*




— Па гэтых справах тэрмін даўніны не скончыцца, — сцвярджае вядомы праваабаронца **Гары ПАГАНЯЙЛА,** які ў свой час быў адвакатам сем'яў па справах зніклых. — Па гвалтоўных знікненнях тэрмін даўнасці для следства не працуе. У ходзе расследавання неабходна ўстанавіць асоб, вінаватых у гвалтоўным выкраданні, або знайсці труп выкрадзенага, каб канчаткова вызначыцца, што адбылося, дзе чалавек. Таму вышуковыя мерапрыемствы праводзяцца да той пары, пакуль не будзе пастаўлена кропка. Пакуль не будзе высветлена, што ж адбылося з гэтым зніклым. Яго забілі (а менавіта па артыкуле "Забойства" ўзбуджаны крымінальныя справы, хоць мы маем толькі факты проста гвалтоўнага знікнення)? Ці чалавек жывы і будзе знойдзены — такое таксама ў гісторыі крыміналістыкі здараецца? Таму проста так справу на паліцу не пакладзеш і ў архіў не спішаш.

Аднак следства па справе можа быць прыпынена. Якраз па гэтых падставах: у сувязі з тым, што чалавек не знойдзены, ці ў сувязі з тым, што не высветлены вінаватыя асобы.

Што адбываецца зараз са справай Дзмітрыя Завадскага, якога не стала ў ліпені 2000 года? Судом прызнана, што яго выкралі. Група Ігнатовіча, у якой былы спецназавец Дзмітрый Малік і яшчэ як мінімум чатыры чалавекі. Гэта значыць колькасць удзельнікаў злачыннай групы ўстаноўлена — шэсць чалавек. Аднак абвінавачаны былі двое, і асуджаны толькі двое. Што стала з Завадскім пасля таго, як яго выкралі, пасля таго, як яго незаконна пазбавілі волі? Так і не вядома. Двое сядзяць у турме, чатыры чалавекі не ўстаноўлены. Як можна спісаць гэтую справу?

**— Такая нізкая кваліфікацыя ў нашых следчых? Як такое можа быць?**

— Гэта не проста нізкая кваліфікацыя. Я магу меркаваць, што ў гэтай канкрэтнай справе на Маліка і Ігнатовіча гэты эпізод павесілі, баючыся гневу Аляксандра Лукашэнкі. Памятаеце, ён жорстка загадаў знайсці асоб, вінаватых у выкраданні Дзімы. Вось такія асобы ўжо нібыта названы і асуджаны — Малік і Ігнатовіч. Але што здарылася з Дзімам — не вядома. Калі б яны рэальна былі вінаватыя ў выкраданні Завадскага, у перадачы Дзімы або яго цела, напрыклад (буду фантазіраваць), чачэнскім баевікам, то гэтыя факты можна было ў ходзе следства ўстанавіць. Скажам груба, можна было "развязаць язык" абвінавачаным, а цяпер асуджаным.

Мы ведаем, што Ігнатовіч асуджаны на пажыццёвае зняволенне, Малік, калі мне памяць не здраджвае, — на 22 гады. На працягу гэтага часу можна было б дамовіцца з тым жа Малікам, напрыклад, аб прыняцці да яго нейкіх дадатковых ільготных і ўмоў утрымання, і ўмоўна-датэрміновага вызвалення і таму падобнага ўзамен на супрацоўніцтва са следствам. Аднак не, нічога не адбылося.

Толькі ад улады залежыць і эфектыўнае расследаванне спраў па знікненні Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара і Анатоля Красоўскага. Адна з рабочых версій таго, што адбылося, падмацавана доказамі, агучана і маецца ў следства: адбыліся палітычна матываваныя выкраданні, якія арганізоўвалі і ў якіх бралі ўдзел супрацоўнікі сілавых структур...

**— А прозвішчы гэтых людзей можна назваць?**

— Іх даўно назваў у сваім рапарце тагачасны намеснік міністра ўнутраных спраў, начальнік крымінальнай міліцыі **Мікалай Лапацік**. Так што падазроныя вядомыя. Больш за тое, не было прынята, напрыклад, рашэнне аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы супраць гэтых асоб, аб спыненні крымінальнага пераследу супраць гэтых асоб з абгрунтаваннем іх невінаватасці. Такога працэсуальнага дакумента няма. Адначасова пацярпелым не даюць для азнаямлення матэрыялы па тых хадайніцтвах, у якіх са спасылкай на аператыўную інфармацыю ўзгадваюцца прозвішчы гэтых асоб. Я думаю, гэта робіцца свядома. Следчыя, што мелі дачыненне да расследаванняў, вусна нам казалі: "У прынцыпе, нам усё вядома. Хопіць двух тыдняў для завяршэння расследавання і прад'яўлення абвінавачання асобам, якія маюць дачыненне да гэтых злачынстваў. Але няма палітычнай волі ні ў цэнтральнага гульца гэтай сітуацыі, ні ў адпаведных міністраў і Генеральнага пракурора, для таго каб справы завяршыць.

**— Мы можам канстатаваць, што палітычная воля пры гэтым кіраўніцтве краіны не з'явіцца, улічваючы тое, хто канкрэтна трапіў у лік падазроных. Адпаведна, мы даведаемся пра вінаватых толькі...**

— ...пры змене ўлады. Пры дэмакратычнай уладзе, якая будзе здольная завяршыць расследаванне па гэтых справах, прадставіць адпаведныя доказы і накіраваць справы ў суд. А там адкрыты суд якраз і пакажа, як і што было.

**— Вы адназначна сцвярджаеце, што тэрміну даўнасці па гэтых злачынствах няма? Ці адзін юрыст скажа так, а іншы — гэтак?**

— Няма. І не таму, што мы, праваабаронцы, ацэньваем тое, што адбылося, як злачынствы супраць чалавечнасці. Проста такое наша нацыянальнае заканадаўства, па якім справы аб гвалтоўным выкраданні не могуць быць закрыты, пакуль не ўстаноўлены вось гэтыя два факты: дзе чалавек ці яго цела і хто вінаваты ў выкраданні. Гісторыя паказвае, што падобныя справы ў многіх краінах раскрываліся нават праз дзесяцігоддзі. І канкрэтныя вінаватыя асобы ў рэшце рэшт не толькі называліся, але і паўставалі перад судом.

**Ганна КРАСУЛІНА.**

ДА ВЕДАМА

## *Цэны на газ, святло і цяпло выраслі на 10 працэнтаў*

***Тарыфы падраслі з 1 верасня***

**Што і як змянілася ў цане:**

| Паслуга | Кошт тарыфу да 1.09.2014 | Кошт тарыфу з 1.09.2014 |
|---|---|---|
| **Аднаставачны тарыф на электраэнергію ў жылых дамах і кватэрах, абсталяваных электрычнымі плітамі** | 633,9 рубля за 1 кВт・ч | 696 рублёў за 1 кВт・ч |
| **Аднаставачны тарыф на электраэнергію ў жылых дамах і кватэрах, не абсталяваных электрычнымі плітамі** | 745,9 рубля за 1 кВт・ч | 818,9 рубля за 1 кВт・ |
| **Тарыф на цеплавую энергію для патрэб ацяплення і гарачага водазабеспячэння** | 82.020 рублёў за 1 Гкал | 90.058 рублёў за 1 Гкал |
| **Прыродны газ у ацяпляльны перыяд пры наяўнасці індывідуальных газавых ацяпляльных прыбораў** | 530,3 рубля за 1 куб. метр | 582,2 рубля за 1 куб.метр |
| **Звадкаваны газ** | 8215,9 рубля за куб.метр | 9021 руб. за куб. метр |

ТЭМА ДНЯ

## *...Калі дзяржава імітуе барацьбу з карупцыяй*

Згодна з афіцыйнай інфармацыяй, зараз у краіне праходзіць грамадскае абмеркаванне праекта закона Рэспублікі Беларусь "Аб барацьбе з карупцыяй". У дыскусію ўключыліся і прадстаўнікі дэмакратычных колаў. Днямі яны правялі аж два "круглыя сталы" з абмеркаваннем праблемы: адзін — у офісе грамадзянскай кампаніі "Гавары праўду!", другі — у офісе Аб'яднанай грамадзянскай партыі. На абедзвюх сустрэчах канстатавана: адбываецца рост карупцыі і ў сталіцы, і ў рэгіёнах. Эксперты — запрошаныя юрысты, якія раней працавалі хто ў міліцыі, хто ў пракуратуры, — нямала слоў сказалі пра сённяшнюю сістэму супрацьдзеяння карупцыі. Дакладней, пра яе адсутнасць. Аргументаў у падтрымку гэтай высновы шмат. Вось толькі некаторыя з іх:

— пракуратура, якая павінна каардынаваць антыкарупцыйную дзейнасць у краіне, сёння пазбаўлена следчага апарату, а без яго яна нават тэарэтычна не ў стане выконваць ускладзеную функцыю;

— няма дастатковай публічнасці, галоснасці ў расследаванні крымінальных спраў — у выніку любыя намаганні следчых могуць быць спынены па званку зверху; існуе кругавая парука, барацьба з карупцыяй стала не дзяржаўнай палітыкай, а кампанейшчынай;

— не ўсе грамадзяне роўныя перад законам, нягледзячы на тое, што гэта не адпавядае Канстытуцыі: некаторых проста немагчыма прыцягнуць да адказнасці без адмашкі прэзідэнта.

І гэтак далей... Бо без незалежнай судовай сістэмы, без свабоды слова, без сапраўднага парламента, які і прызначае, і кантралюе кіраўнікоў праваахоўнай сістэмы, праводзіць незалежныя расследаванні па рэзанансных справах і праблемах, гаварыць пра тое, што можна нейкім чынам паўплываць на ўзровень карупцыі, не даводзіцца.

Апаненты сённяшняй беларускай улады будуць намагацца, каб іх голас быў улічаны пры абмеркаванні законапраекта. Сёння ж яны лічаць, што дзяржава толькі імітуе барацьбу з карупцыяй.

Нагадаем, што прапанаваны законапраект вызначае механізмы прадухілення карупцыі, у тым ліку абмежаванні, якія ўсталёўваюцца для службовых і прыроўненых да іх асоб, рэгулюе парадак дэкларавання даходаў і маёмасці такіх асоб, замацоўвае некаторыя іншыя меры па супрацьдзеянні карупцыі. Але гэта не вырашэнне праблемы, а толькі спроба адцягнуць увагу ад таго, што ў аснове сваёй дзяржавы мы сёння маем карупцыйную сістэму. Бо калі ўсё кантралюецца адным чалавекам (ці невялікай купкай людзей) — гэта і ёсць глеба для карупцыі.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ПАСЛЯ ПАДЗЕІ

# Навука адпачываць, або Свята не для птушачкі

Мы пад'ехалі да Заслаўя на аўтамабілі. З цяжкасцю прыпаркаваліся. І настрой ад гэтага толькі палепшыўся, бо свята робяць госці, публіка. Ёсць гледачы — ёсць падзея. А ў Заслаўі ў Дзень пісьменства было вельмі шматлюдна, кожныя паўгадзіны з электрычак, якія прыбываюць на станцыю "Беларусь", сыходзілі людзі. Шмат моладзі, школьнікаў — падобна, цэлымі класамі. Магчыма, па закліку настаўнікаў. І правільна. Дзень беларускага пісьменства ды яшчэ ў старажытным горадзе — такі ўрок па гісторыі Радзімы прапусціць нельга.

Пра падзеі гэтых выхадных у Заслаўі два дні падрабязна распавядала тэлебачанне: адкрылі 5-метровы помнік Ізяславу Кніжніку работы скульптара Алеся Прохарава, узнагародзілі пісьменнікаў і паэтаў — пераможцаў Рэспубліканскага конкурсу на лепшы літаратурны твор года. Імі сталі Алесь Савіцкі, Таццяна Сівец, Яўген Гарадніцкі, Андрэй Цяўлоўскі. Але былі мерапрыемствы, на якіх варта было прысутнічаць самому.

Разынка сёлетняга Дня пісьменства — адноўлены друкарскі станок XVI стагоддзя, на якім жадаючыя маглі ўласнаручна аддрукаваць ліст з Бібліі Францыска Скарыны на льняной паперы. Менавіта на льняной, таму што цэлюлозу сталі выкарыстоўваць толькі ў сярэдзіне XIX стагоддзя. Тым больш што льняную паперу пры вас, тут жа, рабіў пан Георгій Андрыюк з хутара Заблудаў, які знаходзіцца ў Польшчы, на Беласточчыне. Ён вядомы друкар, выдавец. Быў спецыяльна запрошаны на праект па адраджэнні Бібліі.

А вокладку знакамітай скарынаўскай Бібліі ўзнавіў беларускі графік Барыс Цітовіч з Заброддзя Вілейскага раёна. Таксама персона прызнаная. Барыс Барысавіч у Заслаўі на публіцы рабіў адбіткі гравюр. І, як я ўжо казала, усе жадаючыя маглі падысці да таго ці іншага майстра і паспрабаваць пад іх кіраўніцтвам таксама заняцца друкарскай справай. Але асабіста я не дастаялася ў чарзе: вось дзе быў сапраўдны ажыятаж!

Зрэшты, хачу акцэнтаваць увагу на іншым. Цяпер многія з нас падарожнічаюць летам за мяжой. Некаторыя, напэўна, нават бывалі на розных еўрапейскіх народных фэстах і гуляннях. Маё назіранне: усе вулічныя масавыя святы ўвогуле падобныя адзін на адно, а калі і адрозніваюцца, дык толькі парой года. Усюды спяваюць, танчаць на сцэнах, а на плошчах прадаюць плеценыя кошыкі, кераміку, вышыўку, ювелірку. Але мясцовы акцэнт заўсёды, тым не менш, адчуваецца. Што называецца, лунае ў паветры.

У нас яго доўгі час не было. Святы атрымліваліся без твару, сціплымі да ўбогасці. Урачыстыя мерапрыемствы быццам бы значныя, а агульны антураж правінцыяльны. Нейкая залішняя сур'ёзнасць замінала. Але праўду кажуць: вопыт — справа нажыўная. У Заслаўі нарэшце пры ўсім шаблоне масавага народнага гуляння з абавязковай ежай, пітвом і продажам сувеніраў прысутнічала нешта няўлоўнае, што называецца каларытам, а калі не баяцца пафасу, то і нацыянальным духам. І не толькі таму, што на стэндах стаялі дыхтоўныя беларускія кнігі — галоўныя экспанаты Дня пісьменства, а некаторыя госці былі апранутыя ў нацыянальныя касцюмы: пакуль, праўда, зусім нямногія, але гэтая мода абавязкова з часам захопіць масы, вось пабачыце.

Справа ў іншым: у агульным настроі святочнага натоўпу, у разуменні важнасці свята, лагоднасці на тварах. У разняволенасці нарэшце. Гэта шмат, аказваецца, значыць. Людзі навучыліся адпачываць публічна, людзі захацелі адпачываць публічна. Я назірала, як гадзінамі сем'і фланіравалі па фестывальным праспекце, пераходзячы ад адной сцэны да іншай, слухаючы выступленні артыстаў і пісьменнікаў, потым садзіліся піць каву, а потым ішлі да сувеніраў. А майстры, ладна назапасіўшы ўжо творчага тлушчыку, навучыліся ўмела выкладваць свой тавар, прапаноўваць публіцы вырабы: ільняное ткацтва, саломку, гліняны посуд, вырабы з дрэва, дываны ручной працы. Багаты выбар! І галоўнае — ніякага кітайскага шырспажыву, як часам бывала на масавых гуляннях раней. Усё толькі наша, уласнае, ды яшчэ па нашым звычаі ўпрыгожанае восеньскімі букетамі з кветак і травы.

Але вось чула строгае меркаванне: а навошта тут, побач з кнігамі, тавары-сувеніры? А тым больш кава і шашлыкі? Навошта продаж гародніны і садавіны? Маўляў, чарговыя "Дажынкі". Ведаеце, не трэба быць свяцей Папы Рымскага. Вядома, спачатку было Слова. І свята ў Заслаўі ў яго гонар. Місію нацыянальнай кнігі пераацаніць немагчыма. Але паханжаску стэрылізаваць свята нават у імя нацыянальнай ідэі — значыць ператварыць яго ў чыноўніцкае мерапрыемства, у навуковую канферэнцыю. А трэба, каб было яно не для птушачкі.

**Алена МАЛОЧКА.**

ЗАБЫТЫЕ ИМЕНА

## *Где сейчас Владимир Матвейчук?*

*Достигнув пенсионного возраста, бывший министр культуры, бывший помощник президента Владимир Матвейчук исчез из виду. Неужели ушел на заслуженный отдых? "Народная Воля" решила найти ответ на этот вопрос.*

Трудовая биография Владимира Федоровича Матвейчука невероятно разнообразна. Лектор Костюковичского райкома КПБ, заместитель председателя Хотимского райисполкома, руководитель ПТУ химиков, директор по идеологии ОАО "Полоцк-Стекловолокно". И вдруг невероятный кульбит: из районного города Полоцка — в председатели Белтелерадиокомпании (вместо осужденного в 2004 году Егора Рыбакова). Потом в министры, потом в помощники президента...

Министром культуры Владимир Матвейчук стал в 2005 году, сменив на этом посту закаленного чиновника Леонида Гуляко. Там В.Ф.Матвейчук проработал до середины 2009 года, уступив это место Павлу Латушко. Затем был назначен помощником президента. 1 сентября 2011 года он был освобожден от должности в связи с выходом в отставку. Газеты писали, что Владимир Федорович пребывает на заслуженной пенсии. Тем не менее вскоре фамилия Матвейчука всплыла в списке чиновников Постоянного комитета Союзного государства. Сейчас Владимир Федорович руководит секретариатом председателя высшего государственного совета Союзного государства. Живет в Москве. Но иногда приезжает в Минск — был буквально на прошлых выходных. И регулярно бывает замечен на новогодних концертах Национального симфонического оркестра под управлением маэстро Александра Анисимова в Белгосфилармонии 31 декабря.

**Светлана ЛОДКИНА.**

# А мы — не забудзем!

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

А да чаго прыйшлі зараз? Намечанай маштабнай выставы пакуль няма...У Палацы мастацтва ў юбілейныя дні — нескончоны "шоп": продаж мёду, распродаж розных тавараў адусюль. Толькі месца самому мастацтву ўсё ніяк няма, хаця кіраўніцтва творчага саюза можна зразумець. Каб утрымліваць гэты гмах, які калісьці вабіў жыхароў і гасцей сталіцы сустрэчамі з выяўленчым мастацтвам, патрэбны грошы, грошы, грошы... На просьбу мастакоў да кіраўніцтва Аршанскага райвыканкама аб дазволе правесці ў тамтэйшым музеі выставу палотнаў і скульптур у гонар 500-годдзя вялікай даты на імя старшыні грамадскага камітэта па святкаванні гучнай юбілейнай даты прыйшла рашучая адмова.

Ніякага "шавялення" наконт гэтага, нават прыкмет хоць нейкага разумення ўладнымі структурамі гістарычнай значнасці і знакавасці маштабнай падзеі ў лёсе Бацькаўшчыны не відаць. А мы ўсё возім "дзеля патрыятызму" дзятву і ветэранаў на міфічную "Лінію Сталіна", вучым не праўдзе, а перапісванню гісторыі ва ўгоду ідэалагічным "устаноўкам". **Па-ранейшаму вайсковая вучэльня ў сталіцы Беларусі носіць імя расійскага палкаводца Суворава, які заліваў крывёю беларускую зямлю, а не гордае імя найвыдатнага военачальніка, аўтара легендарнай перамогі пад Оршай і мноствам іншых бітваў за свабоду Айчыны Канстанціна Астрожскага.** Вышэйшыя структуры Беларусі павінны звярнуць увагу на іх славутага папярэдніка.

Мне сорамна, вельмі сорамна, што мы плюём на святое, топчам яго, замоўчваем. Я схіляю галаву перад нашымі мужнымі і бясстрашнымі продкамі, ганаруся іх подзвігамі дзеля яснай будучыні роднай зямлі. І раблю свой маленькі ўнёсак у вянок іх несмяротнай памяці. Да 500-годдзя слаўнай бітвы прымеркаваў новую сваю работу: ужо выпушчаны памятны манетападобны жэтон у знак і гонар вялікай перамогі войскаў Вялікага Княства Літоўскага над маскоўскім войскам 500 год таму. Ён адчаканены ў трох варыянтах з розных сплаваў металаў: медна-нікелевым, латунным і бронзавым, з дыяметрам у 32 міліметры. Прызначаны для тых, хто цікавіцца айчыннай гісторыяй, а таксама калекцыянераў. Мяркую, што Канстанцін Астрожскі варты манументальнага помніка, можа быць, коннага.







У нас добрая памяць. Мы не аддамо яе, перажыўшую пяць стагоддзяў, расцерушыць у бездані забыцця, абыякавага "А калі тое было, мне што з таго?".

...Даўно было, але блізка і дорага кожнаму, у каго жывое сэрца і жывое сумленне. Вечная слава і пашана героям Айчыны, што засланілі будучыню роднай бацькоўскай зямлі ад згубы!

АБРАКАДАБРА

## *Прывітанне з «саўка»*

Дэпартамент дзяржбяспекі Літвы рэкамендуе грамадзянам краіны, якія ў 1990—1991 гадах адмовіліся служыць у Савецкай арміі, не ездзіць у Расію і Беларусь.

У распаўсюджаным учора прэс-рэлізе ДДБ адзначаецца, што гэты заклік звязаны са *"спробай праваахоўных органаў Расіі аднавіць крымінальны пераслед тых, хто па закліку ўлад Літвы пасля 11 сакавіка 1990 года пакінуў Савецкую армію альбо адмовіўся ў ёй служыць".*

*"У міжнароднай абстаноўцы, якая склалася, можа ўзнікнуць пагроза для асабістай бяспекі гэтых грамадзян",* — гаворыцца ў прэс-рэлізе.

Каментарыяў з расійскага і беларускага боку пакуль няма. Паводле дадзеных Мінабароны Літвы, пасля 11 сакавіка 1990 г. ад службы ў савецкім войску адмовіліся 1562 чалавекі. Але зусім не зразумела, якім чынам Расія ці Беларусь могуць некаму прад'яўляць прэтэнзіі ад імя неіснуючай дзяржавы.

## *Не трапілі да расійскіх спажыўцоў*

"Россельхознадзор" вярнуў у Беларусь больш за тры тоны буракоў і морквы. Прычына: прадукцыя з Беларусі не мела фітасанітарных сертыфікатаў і маркіроўкі. Нагадаем, раней "Россельхознадзор" вярнуў у Беларусь прыблізна 25 тон гатовай малочнай прадукцыі і амаль 220 тысяч яек. У прыватнасці, на малочнай прадукцыі былі пастаўлены "авансавыя" даты вытворчасці, якія на некалькі дзён апераджалі бягучыя.

ЖАХ!

# Толькі ў гэтым годзе выяўлена 48 педафілаў

***У парламенце рыхтуецца да разгляду ў другім чытанні падтрыманая дэпутатамі прапанова Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі аб узмацненні адказнасці за педафілію — з 5 да 10 гадоў пазбаўлення волі.***

Гэта стане магчымым пасля ўвядзення ў Крымінальны кодэкс часткі 2 артыкула 168 (палавыя зносіны з асобай, якая не дасягнула 16-гадовага ўзросту), паведаміў у інтэрв'ю, апублікаваным на сайце МУС, намеснік начальніка ўпраўлення па наркакантролі і процідзеянні гандлю людзьмі **Сяргей Калтун.**

Паводле дадзеных МУС, сёння педафілы выяўляюцца не толькі сярод асацыяльных, псіхічна хворых людзей. Яны сустракаюцца сярод педагогаў, урачоў, акцёраў, прадстаўнікоў мас-медыя. Вельмі часта ў сексуальным гвалце над дзецьмі выкрываюць даволі пажылых людзей. Самы скандальны выпадак адбыўся з грамадскім аб'яднаннем "У дапамогу дзецям-сіротам", кіраўнік якога на працягу многіх гадоў трымаў пад Мінскам сапраўдны прытон для педафілаў.

Паводле звестак МУС, у 2013 годзе ў Беларусі было ўстаноўлена 110 фактаў педафіліі. З іх 56 выпадкаў аднесены да катэгорыі цяжкіх і асабліва цяжкіх. За сем месяцаў 2014 года міліцыяй ужо выяўлена 88 фактаў педафіліі, з іх 47 выпадкаў сексуальнага гвалту над дзецьмі кваліфікуюцца як цяжкія альбо асабліва цяжкія. Усяго за бягучы год супрацоўнікамі праваахоўных органаў выяўлена 48 педафілаў, ад якіх пацярпелі 54 дзіцяці, у тым ліку 32 малалетнія.

РЭХА ТРАГЕДЫІ

# «Мы ўцякалі ад вайны з трыма чамаданамі і дзіцем на руках...»

*Карэспандэнт “Народнай Волі” расшукаў у Салігорску сям’ю бежанцаў з усходу Украіны.*

**Каля 30 тысяч украінцаў ратаваліся ад вайны і ад смерці ўцёкамі ў Беларусь. Сярод іх Сяргей і Святлана Новак разам з гадавалай дачкой Міраславай. Іх родную Мар’інку, што паблізу Данецка, бамбілі не раз.**

**Пра тое, што давялося перажыць украінскай сям’і на радзіме і як удалося ўладкавацца ў Беларусі, іх аповед.**



Яшчэ на пачатку вясны Сяргей і Святлана ведаць не ведалі, што ў Беларусі ёсць горад шахцёраў. Іх сям’я, як і сотні іншых украінскіх сямей, жыла ціхім, размераным жыццём. Сяргей працаваў ратавальнікам у мясцовай структуры Міністэрства надзвычайных сітуацый Украіны, Святлана знаходзілася ў дэкрэтным адпачынку, даглядала дачку Міру.

— *Мар’інка — гэта невялікі раённы цэнтр з насельніцтвам усяго шэсць тысяч чалавек*, — расказвае Сяргей. — *Так было да пачатку баявых дзеянняў. Сёння, думаю, там засталіся толькі тыя, каму няма куды ўцякаць альбо не дазваляе стан здароўя... У чэрвені ў наваколле прыйшла вайна. Мы прачыналіся ад таго, што ранкам у нашай кватэры проста трэсліся сцены і шыбы... Баявыя дзеянні падступалі ўсё бліжэй і бліжэй. Па шчырасці скажу, што яшчэ напрыканцы вясны я з’ездзіў у Беларусь, так бы мовіць, на разведку. Трэба было шукаць варыянты, дзе жыць, бо я разумеў, што нясу адказнасць за жонку і дачку... Замацавацца ў Мінску не атрымалася, сталічныя кошты на жыллё аказаліся занадта высокімі, мы не пацягнулі б...*

Пра Салігорск маладыя людзі даведаліся ў інтэрнэце. Вырашылі адправіцца ў гэты беларускі райцэнтр.

— *Гэта было на пачатку ліпеня. Мы збіраліся “пад акампанемент” выбухаў. Таму было не да збораў, узялі толькі самае неабходнае. Мы беглі ад вайны з трыма чамаданамі і дзіцем на руках. Па сутнасці, беглі ў невядомасць...*

Мяжу з Беларуссю сям’я Новак перасекла без асаблівых праблем. Святлана расказвае, як тады перажывала:

— *Сяргей жа быў супрацоўнікам Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, яго маглі вярнуць на радзіму, і, калі б прыйшла позва, яму прыйшлося б ісці ваяваць,* — гаворыць яна.

Маладыя людзі ўзгадваюць, што ў Мар’інцы ў іх засталася чатырохпакаёвая кватэра ў пяціпавярховым доме, дзе яны жылі разам з бацькамі. Аднак пасля бамбёжак дом стаў трохпавярховым, кватэра, па сутнасці, знішчана.

— *Цяпер мы разумеем, што маёмасць — гэта не самае галоўнае ў жыцці*, — гаворыць Сяргей. — *У Мар’інцы засталіся нашы бацькі. У маіх пад Мар’інкай быў зямельны ўчастак, на якім яны пабудавалі дом. Падчас баявых дзеянняў туды трапіла ракета... ад дома застаўся толькі попел. Сэрца крывёю абліваецца, калі думаем пра бацькоў, якія вымушаны былі застацца. Наадрэз адмовіліся бегчы з радзімы. Хаваюцца ў сутарэнні, яны там зараз жывуць. Страшна ўсё гэта... Яны расказваюць пра дзясяткі ахвяр пасля бамбёжак. Горад, можна сказаць, мёртвы: няма ні вады, ні газу, пастаянныя перабоі з электрычнасцю, нават хлеб перасталі завозіць... Самае страшнае, што горад да апошніх дзён бамбілі без папярэджання, хто паспеў схавацца, той, лічы, шчаслівчык...*

Вяртацца на радзіму сям’я Новак не плануе, маладыя людзі хочуць асесці ў Беларусі назаўсёды.

— *У вас ціха і спакойна*, — заўважае Сяргей. — *У вас няма вайны, паверце, гэта важна. Калі казаць шчыра, я стараюся быць па-за палітыкай. Гэтую вайну развязалі палітыкі. У мяне такое адчуванне, што нехта мае на мэце, каб ва Украіне было як мага болей ахвяр. І мірныя людзі гінуць нізашто. Гінуць сотнямі, тысячамі...*

*Не хачу адказваць на пытанне, хто правы, хто вінаваты, малюся толькі за тое, каб ва Украіне наступіў мір.*

*Па сутнасці, выбараў, якія прайшлі ва Украіне 25 мая, у нас не было, правялі толькі рэферэндум па далучэнні да Расіі. Скажу, што настрой у людзей быў розны. Па тэлебачанні — а ў нас ішлі толькі расійскія тэлеканалы — паказвалі, як добра стала ў Крыме пасля таго, як паўвостраў стаў часткай Расіі. І ў многіх на ўсходзе настроі былі такія, што вось і ў нас усё будзе так, як там. Але мы разумеем, што добра ўжо не будзе, таму і вяртацца на ўсход Украіны не плануем.*

Першае, што зрабілі маладыя людзі па прыездзе ў Салігорск, звярнуліся ў адпаведныя органы, каб атрымаць від на жыхарства ў Беларусі. Гэты працэс паступова рухаецца, а пакуль пытанне вырашаецца, Сяргей (ён на сённяшні дзень адзіны карміцель у сям’і) бярэцца за любую работу.

— *Уладкаваўся на рынак грузчыкам*, — гаворыць ён. — *Пакуль няма віду на жыхарства, гэта, бадай, адзінае выйсце. Зарплата — 3 мільёны рублёў. Гэта лепш, чым нічога, але спадзяюся, што з цягам часу змагу ўладкавацца па спецыяльнасці — пайсці на работу ў пажарную службу. Увогуле, у мяне вышэйшая інжынерна-тэхнічная адукацыя, думаю, не прападзём.*

— *Па-першае, мы хочам падзякаваць людзям, якія дапамагалі нам у першыя дні,* — уключаецца ў размову Святлана. — *Беларусы вельмі чуллівыя. Калі мы прыехалі сюды, нам проста не было дзе жыць. Знайшлася сям’я, якая ўзяла нас да сябе, пакуль мы не знайшлі жыллё.*

Зараз сям’я Новак здымае аднапакаёўку за 180 долараў у месяц.

— *Гэта быў адзіны варыянт, бо купіць нават маленькую хатку паблізу Салігорска не было за што,* — кажа Святлана. — *Тых зберажэнняў, якія былі з сабой, хапіла толькі на старэнькі халадзільнік і на некалькі месяцаў арэнды аднапакаёвай кватэры. З трох мільёнаў, што зарабляе Сяргей, застаецца мільён, а кошты ў Беларусі досыць высокія. Спадзяёмся, што гэта часовыя цяжкасці. Сяргей знойдзе сталую работу, можа, пашчасціць трапіць у інтэрнат, тады за жыллё прыйдзецца аддаваць меншыя грошы. А пакуль выкручваемся як можам...*

Сяргей і Святлана не скардзяцца, але зразумела — ім патрэбна дапамога. І дапамагчы ім можна па-рознаму: дзіцячымі рэчамі, крупамі, якія доўга захоўваюцца, грашыма. Даслаць грашовы перавод ці пасылку можна па адрасе: **223701 Салігорск, вуліца Чыгуначная, д.30, кв.233, Сяргей і Святлана Новак.**

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

*Салігорск.*

ЁСЦЬ ПЫТАННЕ...

## Колькі дзён беларусы могуць знаходзіцца ў Расіі без рэгістрацыі?

***Збіраюся на працу ў Расію, хачу з’ездзіць у разведку. Падкажыце, колькі дзён я магу знаходзіцца на тэрыторыі Расіі без рэгістрацыіі?***

***Іван САЛАГУБ, Мінская вобласць.***

Знаходзіцца на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі без рэгістрацыі можна 30 дзён. Гэта прадугледжана Пагадненнем аб забеспячэнні роўных правоў грамадзян Расіі і Беларусі. У выпадку, калі беларускі грамадзянін мае намер знаходзіцца ў Расійскай Федэрацыі больш за 30 дзён, ён абавязаны зарэгістравацца ці аформіць дазвол на часовае альбо пастаяннае пражыванне (від на жыхарства) у РФ. Беларускае грамадзянства з’яўляецца падставай для атрымання дазволу на пастаяннае пражыванне ў РФ у спрошчаным парадку. Для ўрэгулявання дадзеных пытанняў неабходна звярнуцца ў тэрытарыяльнае падраздзяленне Федэральнай міграцыйнай службы Расіі па месцы меркаванай рэгістрацыі ў РФ.

Што ж тычыцца працы, то, паводле таго ж Пагаднення, беларускія грамадзяне маюць права на свабоднае працаўладкаванне ў Расіі, за выключэннем пасад, прызначэнне на якія ў адпаведнасці з расійскім заканадаўствам звязана з прыналежнасцю да грамадзянства РФ (дзяржслужба, сілавыя ведамствы і т.п.). Што тычыцца неабходнага пакета дакументаў, якія патрабуюцца для працаўладкавання ў РФ, трэба звяртацца непасрэдна да працадаўцаў.

ЭКСПЕРТЫЗА

## Як на вайне

Рэйтынгавае агенцтва Standard & Poor’s аднесла банкаўскі сектар Беларусі да найвышэйшай групы рызыкі. Разам з украінскім.

Як адзначаюць эксперты, гэты паказчык адлюстроўвае вельмі слабую эканамічную сераду і высокую геапалітычную рызыку.

Ва Украіне ідзе вайна, карані праблем украінскіх банкаў цалкам зразумелыя, а вось чаму банкаўскі сектар мірнай і стабільнай Беларусі трапіў у тую ж групу рызыкі (разам з такімі праблемнымі краінамі, як Егіпет, Ямайка і Грэцыя) — гэта нагода для сур’ёзнага “разбору палётаў”.

### ДА ВЕДАМА

Standard & Poor’s — даччыная кампанія карпарацыі McGraw-Hill, якая займаецца аналітычнымі даследаваннямі фінансавых рынкаў. Кампанія належыць да тройкі самых уплывовых міжнародных рэйтынгавых агенцтваў.

БЛІЦ

# Былі часы, калі Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада) задавала тон у палітычным жыцці краіны. Чаму цяпер яе не бачна і не чутно? Ці не развалілася яна наогул?

*Такое пытанне мы вырашылі задаць кіраўніцтву Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) па просьбе шэрагу чытачоў “Народнай Волі”. І вось што пачулі.*

### Ірына ВЕШТАРД, старшыня партыі:

— Мы дзейнічаем актыўна і не менш, чым іншыя. Не развaліліся і развальвацца не збіраемся. І што значыць — “не бачна і не чутно”? Зазірніце на наш сайт, там убачыце, чым мы займаемся. Зусім нядаўна ў Брэсце была нарада па стратэгічным планаванні дзейнасці партыі. Днямі наш прадстаўнік у Маладзечне разам з прадстаўнікамі кампаніі “Народны рэферэндум” праводзіў мерапрыемства па зборы подпісаў. Удзельнічалі ў мясцовых выбарах (у нас былі кандыдаты), бралі ўдзел у назіранні. Супрацоўнічаем у “сямёрцы”, працуем над тым, каб завяршыць працэдуру па абранні адзінага кандыдата... Таму пытанне аб нашым “развале” нейкае недарэчнае. Не выключаю, што яго задаюць менавіта тыя, хто дужа-дужа зацікаўлены, каб мы і на самай справе развaліліся.

### Ігар МАСЛОЎСКІ, першы намеснік старшыні партыі, каардынатар па Брэсцкай вобласці:

— Працуем, нядаўна адбылася нарада па стратэгічным планаванні на бліжэйшыя тры гады. У партыі і на самай справе былі лепшыя часы, чым зараз, але мы займаем не апошняе месца сярод іншых дэмакратычных структур Беларусі. У сацыял-дэмакратаў ёсць свая гісторыя, свае каштоўнасці, свая пазіцыя па тых ці іншых пазіцыях. Імкнёмся актыўна працаваць у сацыяльных сетках, так што на месцы не сядзім.

### Валерый ФРАЛОЎ, намеснік старшыні партыі:

— Партыя не развалілася. Іншая справа, што зараз у краіне ўплыў палітычных партый усё больш паслабляецца. Для таго каб партыя была ўвесь час на слыху, трэба дзейнічаць, а дзейнасць шмат у чым залежыць ад фінансавага становішча структуры. Яно ў нас не самае лепшае, замежныя калегі асабліва не дапамагаюць. Адсутнасць такой падтрымкі і не дазваляе ў поўнай меры раскрыцца таму патэнцыялу, які ёсць у партыі. А ён існуе.

### Ігар БАРЫСАЎ, намеснік старшыні партыі, каардынатар па Магілёўскай вобласці:

— Абсалютна не развалілася, і, думаю, у бліжэйшыя пяць гадоў партыя вернецца на свае пазіцыі. Больш чым перакананы ў гэтым. А чаму партыя згубіла пазіцыі? Гэта, напэўна, звязана з унутрыпартыйным канфліктам, які адбыўся ў нас з-за жадання Анатоля Ляўковіча *(былога старшыні партыі. —* **Аўт.**) зрабіць нашу структуру так званай “канструктыўнай апазіцыяй”. Каб нашы прадстаўнікі сядзелі ў парламенце і грэбавалі дэмакратычнымі каштоўнасцямі. Каб заплюшчвалі вочы на прынцыпы, на палітвязняў... У выніку ідэя Ляўковіча не знайшла шырокай падтрымкі ў партыі, але канфлікт супаў з вялікімі фінансавымі цяжкасцямі. На шчасце, Ірына Вештард захавала партыю, нас прызналі. І зараз мы маленькімі крокамі, паціху адладжваем працу. Мы вярнулі сабе месца ў “сямёрцы”, удзельнічаем у праграме “Народны рэферэндум”, працуем у кааліцыі левых партый. Наша партыя зараз нараўне з іншымі, як кажуць, партфель нікому не носім. Паўтаруся, гадоў праз пяць мы выйдзем зусім на іншыя пазіцыі. Гэта пытанне росту.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

НАША ЖЫЦЦЁ

## Каля 85% беларусаў жывуць менш як на 5 мільёнаў у месяц

Белстат апублікаваў апошнія дадзеныя пра даходы беларусаў. Статыстыка ўлічвала не толькі заробкі, але і пенсіі, стыпендыі і іншыя даходы гаспадарак. Потым прыбытак сям’і дзяліўся на колькасць яе членаў. Вось і атрымалася, што толькі 15,2% беларусаў маюць 5 і больш мільёнаў у месяц. Кожны трэці жыве на 2—3 мільёны. Самае цяжкае становішча статыстыкі адзначаюць у сем’ях з двума дзецьмі: у 43% з іх на чалавека ў месяц атрымліваецца толькі 1—2 мільёны. Хіба што толькі на ежу і хапае...

### Сума на аднаго чалавека ў месяц

**1% — менш за 1 мільён**
**15,2% — 1—2 мільёны**
**32,4% — 2—3 мільёны**
**23,7% — 3—4 мільёны**
**12,5% — 4—5 мільёнаў**
**15,2% — больш за 5 мільёнаў**



ФОТАФАКТ

## З новымі яблыкамі!

У Інстытуце пладаводства НАН Беларусі выведзены 5 новых гатункаў яблыкаў. Яны атрымалі назвы “белана”, “дыямент”, “нававіта”, “сакавіта” і “красавіта”. Гэтыя гатункі адрозніваюцца раннім пачаткам плоданашэння, хуткім нарошчваннем ураджаю, ягоным багаццем і рэгулярнасцю. Плады смачныя і прыгожыя, дрэвы — устойлівыя да хвароб. Яблыкі здольныя доўга захоўвацца, а “белана” можа ляжаць і да наступнага ўраджаю. Цяпер новыя гатункі праходзяць дзяржаўныя выпрабаванні.



Загадчыца аддзела селекцыі пладовых культур Інстытута пладаводства НАН Беларусі, прафесар Зоя Казлоўская ўпэўнена, што дачнікам спадабаюцца вынікі працы беларускіх селекцыянераў.

ЛІЧБА ДНЯ

## 4,3 трыльёна рублёў

Такую суму ўзносаў за сем месяцаў гэтага года сабралі страхоўшчыкі Беларусі. Гэта на 9,8% больш, чым за аналагічны перыяд мінулага года. І трэба меркаваць, што страхавыя кампаніі няблага зарабілі, бо страхавыя выплаты за студзень—ліпень склалі 1,8 трлн рублёў, а арганізацыямі пералічана ў бюджэт і пазабюджэтныя фонды 570,5 млрд рублёў.

КОМПЕТЕНТНО

## В Минске цена аренды однокомнатной квартиры начинается от 300 долларов

По словам заместителя директора по аренде жилья группы компаний “Твоя столица” **Натальи Раденя,** сейчас по сравнению с 2013 годом на рынке арендного жилья в Минске объем предложений вырос практически в 2 раза. И это несмотря на период сезонного всплеска, который приходится, как правило, на июнь—сентябрь, когда в столицу приезжает много студентов.

— Нижний предел для однокомнатных квартир составил 300 долларов, для двухкомнатных — 400, для трехкомнатных — 500, — отмечает специалист. — В последнее время на рынке аренды все больше появляется квартир с современным либо дизайнерским ремонтом. Рассчитаны они в основном на обеспеченных арендаторов, т.к. стоимость их аренды в среднем на 30—40% больше стоимости аренды квартир стандартных потребительских качеств.

Но если мы говорим, что в целом на рынке объем предложения вырос, то в сегменте новостроек ситуация противоположная. По сравнению с 2012 годом в 2013—2014 гг. объем предложения аренды в новостройках уменьшился, так как с середины 2013 г. указом №246 был введен запрет на сдачу квартир, построенных с привлечением льготного кредитования.

ПРАВОВОЙ ЛИКБЕЗ

# Что положено инвалиду?

Инсульт, инфаркт, атеросклероз — это неполный перечень заболеваний, которые могут не только убить, но и надолго или навсегда лишить человека возможности жить полноценной жизнью, приковать его к постели.

Наше государство гарантирует ряд льгот для инвалидов — и при оплате жилищно-коммунальных услуг, и при покупке лекарств, и при приобретении технических средств социальной реабилитации и т.д. Однако инвалидность устанавливается МРЭК не сразу после возникновения заболевания, а спустя полгода.

Не все знают о том, что государство помогает не только инвалидам, но и другим гражданам, оказавшимся в трудной жизненной ситуации.

Указом Президента РБ №41 от 19.01.2012 “О государственной адресной социальной помощи” предусмотрена поддержка широкому кругу населения, в том числе и гражданам, не способным к самообслуживанию в связи с заболеванием, для лечения которого требуется длительное применение лекарственных средств.

Таким гражданам помощь может быть оказана в виде ежемесячного и (или) единовременного социальных пособий на приобретение продуктов питания, лекарственных средств, одежды, обуви и на другие нужды для обеспечения нормальной жизнедеятельности, а также на внесение платы (полностью или частично) за жилищно-коммунальные услуги и (или) платы за пользование жилым помещением государственного жилищного фонда.

Правда, рассчитывать на адресную помощь в виде пособий могут не все граждане. Ежемесячное социальное пособие предоставляется семьям или одиноким гражданам при условии, что их среднедушевой доход (доход на каждого члена семьи) по объективным причинам ниже наибольшей величины бюджета прожиточного минимума в среднем на душу населения, утвержденного Советом министров Республики Беларусь, за два последних квартала (критерий нуждаемости). Размер ежемесячного социального пособия — это положительная разность между критерием нуждаемости и среднедушевым доходом семьи (гражданина). Он пересчитывается при увеличении критерия нуждаемости в период предоставления ежемесячного социального пособия.

Единовременное социальное пособие предоставляется семьям (гражданам), оказавшимся по объективным причинам в трудной жизненной ситуации, нарушающей нормальную жизнедеятельность, при условии, что их среднедушевой доход составляет не более 1,5 величины критерия нуждаемости.

Кроме того, граждане, утратившие способность к самообслуживанию, могут рассчитывать на помощь, которая оказывается территориальными центрами социального обслуживания. Список видов услуг, которые оказывают социальные работники, довольно большой. Он отражен в постановлении Совета министров Республики Беларусь от 27.12.2012 №1218 “О некоторых вопросах оказания социальных услуг”. В частности, п.26 постановления для граждан, полностью утративших способность к самообслуживанию и передвижению, предусматривает услуги сиделки в дневное время по рабочим дням от 10 до 40 часов в неделю при необходимости.

Пунктами 1.2 и 1.3 Указа предусмотрена выплата социального пособия для возмещения затрат на приобретение подгузников и социальное пособие на оплату технических средств социальной реабилитации. Пособия на приобретение подгузников выплачиваются независимо от среднедушевого дохода семьи (гражданина) детям-инвалидам в возрасте до 18 лет, имеющим 4-ю степень утраты здоровья, инвалидам 1-й группы на основании индивидуальной программы реабилитации инвалида или заключения врачебно-консультационной комиссии государственного учреждения здравоохранения.

Пособие на оплату технических средств социальной реабилитации предоставляется независимо от величины среднедушевого дохода семьи (гражданина) детям в возрасте до 18 лет, не признанным инвалидами, но нуждающимся по медицинским показаниям в таких средствах, а также инвалидам 3-й группы, если они не имеют права на бесплатное обеспечение такими средствами.

С заявлением о предоставлении адресной помощи необходимо обращаться в органы по труду, занятости и социальной защите в администрации по месту жительства. Если необходима помощь социального работника — в территориальные центры социального обслуживания.

**Олег ВОЛЧЕК, руководитель ПЦ “Правовая помощь населению”.**

*Украина (г.Киев).*

Народная Воля
http://www.nv-online.info
9 ВЕРАСНЯ 2014 г.

ІНІЦЫЯТЫВА

# Дзяржаўнай мове — дзяржаўнае свята

*Беларуская мова заслугоўвае таго, каб у яе гонар было заснавана дзяржаўнае свята Рэспублікі Беларусь.*

Што такое *дзяржаўнае свята* з афіцыйнага пункту гледжання? Існуе Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 26 сакавіка 1998 года "Аб дзяржаўных святах, святочных днях і памятных датах у Рэспубліцы Беларусь" №157 са змяненнямі і дапаўненнямі. Як бачна, гэты дакумент вылучае тры катэгорыі святаў і адметных дат. Там адзначана, што дзяржаўныя святы — *"гэта святы, прызначаныя ў Рэспубліцы Беларусь дзеля адзначэння падзей, якія маюць асаблівае гістарычнае ці грамадска-палітычнае значэнне для Рэспублікі Беларусь, якія аказалі істотны ўплыў на развіццё беларускай дзяржавы і грамадства".* Беларуская мова якраз ёсць з'ява, якая мае і асаблівае значэнне, і аказала не тое што істотны, а вырашальны ўплыў. Праўда, так думаюць не ўсе, таму не выключана і пэўнае супрацьдзеянне гэтай ідэі.

Такое свята будзе ўшаноўваць не падзею, а з'яву — мову. А што да нагоды — даты, дык тут ёсць некалькі варыянтаў: можна ўзняць статус ужо наяўных святочных дзён ці памятных дат, у пэўных выпадках пашырыўшы іх змест і назву. Можна заснаваць новае свята, прызначыўшы для яго дзень, звязаны са знакавымі для беларускай мовы публікацыямі ці з біяграфіяй аднаго з нашых класікаў.




## Хочацца свята!

З'яўленню свята могуць запярэчыць на той падставе, што ў Беларусі ўжо ёсць даты, звязаныя з мовай. Напрыклад, 21 лютага свет адзначае Міжнародны дзень матчынай мовы, абвешчаны ЮНЕСКА ў 1999 годзе (ГА ТБМ традыцыйна прымяркоўвае да гэтага дня Агульнанацыянальную дыктоўку). Але гэта аргумент хутчэй на карысць новага дзяржаўнага свята. Сайт ААН у Беларусі, прыводзячы дадзеныя лінгвістычнай камісіі Беларускага Хельсінкскага камітэта, адзначае, што беларуская мова сёння *"зведвае пэўныя цяжкасці: яна амаль выключана са справаводства і з ужывання дзяржаўным чыноўніцтвам; на жаль, адсутнічае праграма падтрымкі і развіцця беларускай мовы; моваю большасці масавых тэлеканалаў, рэкламы, вулічных надпісаў пакуль у асноўным з'яўляецца руская мова".* Няўжо пазіцыя ААН для нашай дзяржавы нічога не значыць? Хіба цяжкі стан важнейшай культурнай з'явы краіны, адзначаны аўтарытэтнейшай міжнароднай арганізацыяй, не аргумент, каб павысіць ранг гэтага дня да дзяржаўнага свята? Праўда, калі сітуацыя не зменіцца, то назва "свята" будзе гучаць хутчэй як здзек. Але на тое і спадзеў, што гэта ініцыятыва паспрыяе змяненням.

У нашым календары таксама ёсць Дзень беларускага пісьменства. Аднак, па-першае, і ён з'яўляецца не дзяржаўным святам, а, паводле згаданага ўказа, святочным днём. Па-другое, хаця літаратура і друк, безумоўна, найшчыльнейшым чынам звязаны з мовай, гэта ўсё ж такі іх дзень, а не свята мовы непасрэдна. Можна пераназваць свята — "Дзень беларускай мовы і пісьменства". Вядома, адной змены назвы недастаткова — трэба пашыраць і канцэпцыю свята, і спіс мерапрыемстваў.

У трэцяга варыянта — заснавання зусім новага дзяржаўнага свята, Дня беларускай мовы, — ёсць шматлікія міжнародныя прэцэдэнты: у многіх краінах ёсць дні роднай мовы, якія адзначаюцца не 21 лютага. Гэты артыкул раскажа пра святы розных моў.

Пачнём з **міжнародных моўных дзён**. Апроч 21 лютага у Еўропе адзначаецца 26 верасня — Еўрапейскі дзень моў. Свята заснавана ў 2001 годзе, у Еўрапейскі год моў. Яго мэты наступныя:

— заахвоціць грамадства вывучаць як мага больш моў (асабліва тых, якія не вельмі распаўсюджаны);

— спрыяць захаванню моўнай разнастайнасці Еўропы (каля 225 толькі аўтахтонных моў);

— спрыяць ўсёжыццёваму вывучэнню моў як для навучання за мяжой і прафесійных мэт, так і для задавальнення.

Арганізатар свята — Рада Еўропы: Аддзел моўнай палітыкі і Еўрапейскі цэнтр сучасных моў. На спецыяльным сайце (http://edl.ecml.at), прысвечаным святу, Рада выказвае спадзеў, што ў святкаваннях будуць браць удзел прадстаўнікі ўлад, грамадскіх аб'яднанняў, навучальныя ўстановы і ўвогуле ўсе ахвотныя.

Як адзначаюць гэты дзень? Гэта пытанне важнае, бо Таварыству беларускай мовы не варта абмяжоўвацца агульнанацыянальнай дыктоўкай — трэба шукаць новыя формы дзейнасці, якія прывабяць да мовы шырэйшую аўдыторыю. Адзінага плана свята не існуе, наадварот, Камітэт міністраў Савета Еўропы рэкамендуе, каб кожны індывідуальны ці калектыўны ўдзельнік святкавання рабіў гэта паводле ўласных інтарэсаў і ўяўленняў.

На згаданым сайце арганізатары святочных мерапрыемстваў могуць рэгістраваць свае праекты, а наведвальнікі штогод праводзяць інтэрнэт-галасаванне на лепшы з іх. Зараз там зарэгістраваны імпрэзы не толькі ў краінах-удзельніцах ЕС, але і міжнародныя, са Швейцарыі, Турцыі і Канады. Пераможцам 2013 года стала харвацкая пачатковая школа з мерапрыемствам "Моўны забаўляльны кірмаш". Вы таксама можаце прыдумаць і правесці што-небудзь. Усе праекты апісаны на сайце, так што пры патрэбе можна пазычыць там ідэі.

Сярод праектаў тэатральныя пастаноўкі на розных мовах, моўныя курсы, моўныя гульні, кокурс на лепшыя сцягі-сімвалы розных моў, канферэнцыі па праблемах вывучэння моў і моўнай разнастайнасці ды шмат чаго іншага. Акрамя таго, самі стваральнікі сайта забяспечваюць наведвальнікаў парадамі, матэрыяламі для моўных гульняў і г.д.

## Суседзі не дурні

Далей пераходзім да святаў, звязаных з мовамі, у нашых былых "калег" па Савецкім Саюзе.

У **Эстоніі** Дзень матчынай мовы (Emakeelepaev) адзначаецца 14 сакавіка. У гэты дзень у 1801 годзе нарадзіўся Крыстыян Яак Петэрсан, пачынальнік эстонскай паэзіі. Свята адзначаецца з 1996 года, а ў 1999-м яно абвешчана нацыянальным святам — на будынках вывешваюць нацыянальныя сцягі. У гэты дзень, у прыватнасці, уручаюць прэмію за дасягненні ў галіне эстонскай мовы і літаратурную прэмію, праводзяць конкурсы на веданне мовы.

9 лістапада ва **Украіне** адзначаецца Дзень украінскага пісьменства і мовы, заснаваны ў 1997 годзе. Згодна з праваслаўным календаром, у гэты дзень ушаноўваецца памяць прападобнага Нестара-летапісца, аўтара "Аповесці мінулых гадоў", які нарадзіўся ў Кіеве і быў манахам Кіева-Пячорскага манастыра.

У **Малдове** 31 жніўня адзначаюць нацыянальнае свята "Наша мова" (Limba noastra). У гэты дзень у 1989 годзе малдаўская мова была абвешчана афіцыйнай. Таксама быў зацверджаны пераход з кірыліцы да лацінскай графікі. Нацыянальнае свята было абвешчана ў 1990 годзе пад назвай "Наша мова — румынская", але ў 1994 годзе яго пераназвалі. Назва свята запазычана з верша класіка малдаўскай паэзіі Аляксея Мацеевіча. Гэты верш у 1994 годзе стаў гімнам Малдовы. У **Румыніі** гэтая ж дата адзначаецца як Дзень румынскай мовы з 2013 года.

14 красавіка — Дзень роднай мовы (Дзедаэніс дге) у **Грузіі**. У 1978 годзе быў апублікаваны праект новай Канстытуцыі Грузінскай ССР, паводле якога грузінская мова больш не мела статусу дзяржаўнай у рэспубліцы, а руская атрымлівала прывілеяванае становішча. Але 14 красавіка на праспект Руставелі ў Тбілісі ў знак пратэсту выйшлі каля ста тысяч чалавек, дзякуючы чаму статус грузінскай мовы быў захаваны.

У **Азербайджане** ад абвяшчэння незалежнасці ў 1991 годзе пачаўся паступовы пераход з кірылічнай графікі на лацінскую. У 2001 годзе быў выдадзены ўказ Прэзідэнта Азербайджана "Аб удасканаленні прымянення дзяржаўнай мовы". Паводле яго да 1 жніўня 2001 года ўсе перыядычныя выданні на азербайджанскай мове і ўсё справаводства пераводзіліся на лацінку. Указ таксама прадпісаў стварыць Дзяржаўную камісію па азербайджанскай мове пры кіраўніку краіны; скласці спіс літаратуры, рэкамендаванай для перавыдання лацінкай; наладзіць дубліраванне замежнай кіна- і відэапрадукцыі; распрацаваць праект закона, які прадугледжвае адказнасць за адкрытую ці схаваную прапаганду супраць азербайджанскай мовы, за супраціў яе ўжыванню і развіццю і іншае. Не дзіўна, што зараз 1 жніўня адзначаецца як Дзень азербайджанскага алфавіта і азербайджанскай мовы.

Афіцыйнае свята **Таджыкістана** Дзень дзяржаўнай мовы адзначаецца 5 кастрычніка. З 1990-га па 2009 год свята адзначалася 22 ліпеня. Але паколькі перыяд адпачынкаў не спрыяў правядзенню шырокамаштабных святкаванняў, а таксама ў сувязі са змяненнямі ў Законе аб дзяржаўнай мове святкаванне было перанесена на цяперашнюю дату.

22 верасня — Дзень моў народаў **Казахстана**. Паводле дадзеных перапісу 2009 года, у краіне пражывае звыш 66,5 тысячы беларусаў (у 1989-м іх было амаль 183.000).

23 верасня — Дзень дзяржаўнай мовы ў **Кыргызстане**. У гэты дзень у 1989 годзе быў прыняты Закон аб дзяржаўнай мове Кіргізскай ССР, які абвяшчаў дзяржаўнай мовай кіргізскую. У краіне ў 2000 годзе прыняты асобны закон аб афіцыйнай мове, якая "служыць мовай міжнацыянальных зносін і спрыяе інтэграцыі рэспублікі ў сусветную супольнасць". Як вы, напэўна, здагадаліся, гэтым светачам служыць там руская мова. Пажадаем кіргізам поспехаў у іх памкненні інтэгравацца ў сусветную супольнасць такім чынам. У 2013 годзе былі прыняты папраўкі ў заканадаўства, якія ўмацоўваюць пазіцыі кіргізскай мовы ў сферы мясцовага кіравання.

Ва **Узбекістане** 21 кастрычніка адзначаецца як Дзень надання ўзбекскай мове статусу дзяржаўнай. Закон аб дзяржаўнай мове ў гэтай краіне быў прыняты ў 1995 годзе.

У 2010-м ААН зацвердзіла Днём рускай мовы (адным з дзён шасці афіцыйных моў ААН) 6 чэрвеня, дзень нараджэння А.Пушкіна. Гэты дзень у самой **Расійскай Федэрацыі** адзначаўся як Пушкінскі дзень з 1997 года. З 2011 года гэтая дата абвешчана ў краіне таксама і Днём рускай мовы.

Цікава, што яшчэ ў 1996 годзе шматпакутныя на моўную дыскрымінацыю прадстаўнікі арганізацыі "Руская грамада Крыма" пачалі адзначаць 6 чэрвеня як "дзень абароны рускай мовы". З 2007 года там праводзіцца міжнародны фестываль "Вялікае рускае слова". Нядаўна мы ўбачылі доказ таго, што лепшая "абарона" — гэта напад. Напад, праўда, пад шумок, па-здрадніцку.

З 2005 года 25 красавіка ў Чачні адзначаецца дзяржаўнае свята Дзень **чачэнскай** мовы. Свята прымеркавана да пачатку выхаду першай чачэнскай газеты "Серло" (Святло) у 1923 годзе. Чачэнская мова — пятая па распаўсюджанасці на тэрыторыі РФ.

## А як у іх?

Зараз звернемся да краін Паўночнай Еўропы. Дзяржаўнае свята **Фінляндыі** — Дзень фінскай мовы, або Дзень Мікаэля Агрыкалы (каля 1510—1557). Свята заснавана ў 1960-м. Адзначаецца 9 красавіка, у дзень смерці аўтара першай кнігі на фінскай мове (буквара), перакладчыка Новага Запавета і лідара Рэфармацыі ў Фінляндыі. З нагоды свята вывешваюцца нацыянальныя сцягі.

Дзяржаўнае свята **Ісландыі** — Дзень ісландскай мовы — адзначаецца 16 лістапада з нагоды дня нараджэння Ёўнаса Хадльгрымсана (1807—1845), народнага паэта і пісьменніка, удзельніка руху за незалежнасць ад Даніі. Яго імем названа прэмія, якой у гэты дзень уганароўваюцца асобы, што зрабілі найбольшы ўнёсак у развіццё мовы. Свята заснавана ў 1996 годзе.

Працягнем наш агляд датамі, абвешчанымі ААН днямі сваіх афіцыйных моў:

англійскай (23 красавіка — дзень нараджэння У.Шэкспіра),

арабскай (18 снежня — дзень уключэння арабскай у лік афіцыйных моў ААН),

іспанскай (12 кастрычніка — Дзень іспанамоўнага свету),

кітайскай (20 красавіка — дзень, прысвечаны Цан Цзэ, легендарнаму культурнаму герою, якому прыпісваецца стварэнне кітайскіх іерогліфаў),

рускай (6 чэрвеня — дзень нараджэння А.Пушкіна),

французскай (20 сакавіка — Міжнародны дзень франкафоніі).

У згаданыя дні ў структурах ААН праводзяцца розныя мерапрыемствы.

Дзень іспанамоўнага свету адзначае высадку Калумба на востраве Сан-Сальвадор Багамскага архіпелага. Акрамя Дня іспанскай мовы ў ААН існуе і іншы Дзень іспанскай мовы, "Dia E", прапанаваны Інстытутам Сервантэса ў 2009 годзе. Ён адзначаецца ў апошнюю суботу перад летнім сонцастаяннем. Сярод шматлікіх мерапрыемстваў ёсць і інтэрнэт-галасаванне за "іспанскае слова года". Словы прапануюць розныя знакамітасці, напрыклад Шакіра, Антоніа Бандэрас, Вісэнтэ дэль Боске і Марыа Варгас Льёса.

Міжнародны дзень франкафоніі адзначае дату заснавання аб'яднання франкамоўных краін у 1970 годзе.

Садружнасць **партугаламоўных** краін, створаная ў 1996 годзе, адзначае 5 мая як Міжнародны дзень партугальскай мовы і культуры. У садружнасць уваходзяць 8 краін з прыкладна 240 мільёнамі жыхароў.

Існуе таксама Дзень **нямецкай** мовы, які арганізоўваецца Саюзам нямецкай мовы ў другую суботу верасня з 2001 года. Яго мэты: павысіць пісьменнасць усіх жыхароў краіны, зменшыць некрытычнае выкарыстанне запазычаных слоў, закрануць пытанні раўнапраўя моў, наладзіць супрацоўніцтва і абмен думкамі паміж аматарамі нямецкай мовы з розных краін.

У Азіі таксама ёсць святы, звязаныя з мовамі. У абедзвюх **Карэях** адзначаецца дзень карэйскага алфавіта. У Паўднёвай Карэі ён называецца "Дзень хангыль" і адзначаецца 9 кастрычніка, у Паўночнай Карэі — "Дзень чосонгыль" — 15 студзеня. Абедзве назвы можна перакласці як "карэйскае пісьмо", але ў дзвюх Карэях прыняты розныя назвы краіны. Хангук — адна з назваў, прынятых на Поўдні, Часон — на Поўначы.

Карэйскае пісьмо было распрацавана калектывам вучоных пад кіраўніцтвам цара Сяджона Вялікага ў 1443—1444 гадах. Адзначаецца, што 15 студзеня — верагодная дата стварэння канчатковай версіі алфавіта. Алфавіт быў апублікаваны 9 кастрычніка 1446 года ў выглядзе дакумента пад назвай "Хунмін чаным" (наказ народу аб правільным вымаўленні).

З 1991-га па 2013 год дата была пазбаўлена статусу нацыянальнага свята (з-за патрабаванняў наймальнікаў павялічыць колькасць працоўных дзён), хаця заставалася нацыянальным памятным днём. Але ў 2012-м пад ціскам грамадскасці Нацыянальная асамблея прагаласавала за вяртанне статусу. Зараз у Паўднёвай Карэі будуецца музей алфавіта.

14 верасня адзначаецца Сусветны дзень **хіндзі** (Хіндзі дзівас). У гэты дзень у 1949 годзе Канстытуцыйны сход Індыі надаў гэтай мове статус дзяржаўнай. Сярод шматлікіх мерапрыемстваў — гульня "антакшары". Яна нагадвае нашу гульню ў гарады, толькі замест назваў гарадоў выкарыстоўваюцца радкі вершаў і песень з індыйскіх фільмаў.

Закончым агляд амерыканскім кантынентам. 31 сакавіка ў **Канадзе** адзначаецца Нацыянальны дзень абарыгенных моў. Сёння іх там больш за 60 з прыкладна 214 тысячамі носьбітаў, хаця колькасць карэнных канадцаў каля 1,3 мільёна.

На шэрагу Карыбскіх выспаў, напрыклад, на **Сэнт-Люсіі** і **Дамініцы,** з 1970-х гадоў у канцы кастрычніка святкуюць Крэольскі дзень (Jounen Kweyol). Гэта фальклорны, кулінарны, спартыўны і музычны фестываль, на якім прынята, каб усе размаўлялі па-крэольску.

Гэты нарыс амаль не закранае тэму моўных фестываляў — яны заслугоўваюць асобнага артыкула. На заканчэнне адзначу, што, хаця гэты матэрыял хіба аглядны, у ім згадваюцца некалькі арыгінальных спосабаў святкавання моўных дзён. Варта працаваць над увасабленнем ідэі дзяржаўнага свята беларускай мовы, але згаданыя спосабы можна ўжываць ужо зараз.

**Дзяніс ТУШЫНСКІ,**
**намеснік старшыні**
**ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны".**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Ці сядзе цяпер пенсіянер?

**У Мсціслаўскім раёне пенсіянер за паўтара мільёна рублёў прадаў нарыхтоўшчыку металу калгасную воданапорную вежу, якая ляжала на тэрыторыі фермы. Пенсіянеру свеціць да трох год пазбаўлення волі.**

*Вежа, ўлёгшыся калодаю,*
*Пакрывалася іржой.*
*"Я вазьму і завалодаю*
*Жалязякаю чужой.*
*Здам канторы сыравінаю, —*
*Парашыў пенсіянер. —*
*Будзе выхадка нявіннаю,*
*Бо крадуць усе цяпер".*
*Дзед паклікаў нарыхтоўшчыка*
*І лухты яму наплёў...*
*Кашалёк у дзеда тоўсценькі*
*Ад атрыманых рублёў!*
*Ды міліцыя — рухавая.*
*Так бы мовіць, тут як тут.*
*І з узбуджанаю справаю*
*Пацягнула дзеда ў суд.*
*"Пазнаёміць" з каталажкаю*
*Патрабуе пракурор,*
*Бо злачынства вельмі цяжкае —*
*Дзед гару жалеза спёр.*
*— Гэта справа шараговая, —*
*Слёзы лье пенсіянер. —*
*І таму не заслугоўваю*
*Я такіх суровых мер.*
*Злодзей я, як кажуць, новенькі,*
*Ды і скраў якісь мільён.*
*А начальнікі-чыноўнікі,*
*Што крадуць ужо здавён,*
*Сталі казачна багатымі —*
*На мільярды лік ідзе!*
*Казнакрадаў з тарбахватамі*
*Рэдка ўбачыш у судзе.*
*Цяжка будзе мне за кратамі —*
*Чалавек немалады...*
*А суддзю сляза "не кратае" —*
*Дзеду ўпёк аж тры гады.*
*А затым яшчэ з пагардаю*
*Прагучала ад суддзі:*
*— На начальнікаў з мільярдамі*
*Ты, сярмяжнік, не глядзі.*
*Напішы з вялікай літары*
*На лабешніку ў радку:*
*"Што дазволена Юпітэру —*
*Не дазволена быку..."*

## Баляванне ў час чумы для Расіі зладзім мы

**Беларусь бярэцца часткова замяніць еўрапейскіх пастаўшчыкоў харчавання для Расіі, хоць сама адчувае дэфіцыт свініны, закупляе за мяжою бульбу.**

*На сілу ёсць заўсёды сіла.*
*Зрабіў заяву Еўразвяз:*
*— Ты, ваяўнічая Расія,*
*Не купіш анічога ў нас!*
*Раней валюты нашы банкі*
*Табе давалі, як гразі,*
*Цяпер жа аўтаматы й танкі*
*Замест крэдытаў "пагрызі"...*
*Расіі той расклад нялюбы,*
*Сябе адчула як ізгой,*
*А потым паказала зубы,*
*Былы імперскі нораў свой:*
*— Пакуль не ворагі вы нібы,*
*Аднак ужо і не сябры.*
*Дык мне не трэба вашай рыбы,*
*Пабоку фрукты і сыры,*
*Не буду ваша мяса есці!*
*Хоць менш і па другой цане,*
*Куплю на белым свеце дзесьці*
*Усё, што вы савалі мне!*
*Але вазіць харчы няблізка*
*Аж цераз мора-акіян...*
*А ў Беларусі ёсць сасіска*
*І малака-смятаны збан.*
*Дык памажы, маўляў, суседка,*
*Дай трохі са свайго стала,*
*Бо з Захаду няма аб'едкаў,*
*Якімі я раней жыла.*
*А калісь жа не раз, бывала,*
*Рабіла поскудзь спадцішка,*
*Як наша мяса бракавала,*
*Браць не хацела малака.*
*Нас забаронамі душыла,*
*Усё было ёй неўспадоб:*
*То ў мясе нейкая бацыла,*
*То ў малацэ якісь мікроб.*
*Цяпер жа браць гатова лішкі*
*З таго, што нам самім не ў смак,*
*Бо, калі марш іграюць кішкі,*
*У ежу пойдзе і чарвяк.*
*Ды лішкаў тых набрацца скуль бы,*
*Бо стол жа небагаты ў нас,*
*Калі не можам нават бульбы*
*Сабраць удосталь, у запас.*
*Хоць мяса ў крамах зноў не стане*
*І паясы зацягнем мы,*
*Расіі зладзім баляванне*
*У час свінячае чумы.*

* * *

*Расія "села на дыету",*
*Харчам абвесціла байкот...*
*Мы ж памагчы ёй ставім мэту:*
*Сваю апошнюю катлету*
*Сілком ёй будзем пхаць у рот.*



ДАВЕДАЧНАЕ БЮРО СПАЖЫЎЦОЎ

*На пытанні чытачоў "Народнай Волі" адказвае старшыня Пухавіцкай раённай арганізацыі ГА "Беларускае таварыства абароны спажыўцоў"* ***Васіль ВАЛАСЮК.***

### Ці можна вярнуць грошы за зламаны відэарэгістратар?

*Зламаўся відэарэгістратар. Сам адвёз у сэрвісны цэнтр, але адрамантаваць яго не змаглі, а толькі далі заключэнне. Ці магу я прыехаць у магазін, дзе купляў відэарэгістратар, каб вярнуць свае грошы?*

**Сцяпан ХАМЯНОК,**
**Магілёў.**

— Так, маеце на гэта поўнае права. Толькі вазьміце з сабой у магазін экспертнае заключэнне.

### Ад ветру зламаўся парасон

*Тры тыдні таму прадала парасон (я гандлюю на рынку), а днямі прыйшоў пакупнік і захацеў вярнуць яго назад. Маўляў, парасон зламаўся ад ветру. Грошы, натуральна, я аддала як за няякасны тавар, але ці варта было гэта рабіць? На чыім баку праўда?*

**Алена, Мінск.**

— Вы паспяшаліся вяртаць грошы, бо пакупнік ужо згубіў гарантыйныя правы.

### На крэсле выцерлася абшыўка

*Пяць месяцаў таму набылі крэсла з натуральнай скуры, але зараз вельмі моцна выцерлася абшыўка. Ці можна вярнуць крэсла назад у магазін?*

**Валянцін ШПАКОЎСКІ,**
**Маладзечна.**

— Можна, бо ў працэсе выкарыстання тавару праявіліся дэфекты няякаснай афарбоўкі. Гэта вытворчая недапрацоўка.

### Прынтар не могуць адрамантаваць паўтара месяца

*Аддаў прынтар у рамонт паўтара месяца таму, але да гэтага часу яго не адрамантавалі. Ці ёсць нейкі максімальны тэрмін на ліквідацыю недахопу?*

**Сямён ВОЛЬСКІ,**
**Ліда.**

— На рамонт адводзіцца тэрмін у 14 дзён. Зараз вы маеце поўнае права выставіць пісьмовую прэтэнзію з патрабаваннем выканаць рамонт.

### Дрыль ізноў зламаўся пасля рамонту

*Пасля двухмесячнага рамонту ў сэрвісным цэнтры майго дрыля ён ізноў пачаў дрэнна працаваць, а затым і наогул зламаўся. Што я магу прад'явіць сэрвіснаму цэнтру?*

**Аляксандр ПАЛЬЧЫНСКІ,**
**Віцебск.**

— Толькі прэтэнзію на няякасны рамонт. Патрабуйце, каб аднавілі працаздольнасць дрыля.

### Тэлефон разбіла сама...

*Экран тэлефона разбіла я сама, але пасля гэтага апарат яшчэ доўгі час працаваў. Зараз з экрана пачала знікаць карцінка. Ці можна здаць тэлефон на рамонт па гарантыі?*

**Валянціна ГОЛУБ,**
**Старыя Дарогі.**

— На жаль, не можаце. У гэтай сітуацыі ў вас згублены гарантыйныя правы.

### Не падабаецца гучанне калонак

*Ці можна вярнуць калонкі назад у магазін і патрабаваць грошы, калі мне не падабаецца іх гучанне?*

**Анатоль КАЛЕСНІК,**
**Горкі.**

— Не. Калонкі можна вярнуць толькі пры наяўнасці істотнага недахопу.

### Загарэўся дзіцячы верталёт

*Радыёкіруемы верталёт, які набылі на рынку, дома ў літаральным сэнсе загарэўся ў паветры. Прынеслі на рынак назад, нам сказалі, што такога быць не можа, каб цацка загарэлася... І, натуральна, адмовіліся вяртаць грошы і забіраць сваю "цудтэхніку". Што зараз рабіць?*

**Сям'я АСТАПЧЫК,**
**Маладзечна.**

— Звярніцеся да экспертаў, яны ўстановяць, чаму загарэўся ваш верталёт. А пасля заключэння ўжо зноў звяртайцеся да таго, хто вам прадаў цацку.

### У тэлефоне не працуе зарадная прылада

*Набыла тэлефон паўгода таму, зараз не працуе зарадная прылада. Пайшла аддаць у рамонт па гарантыі, а мне сказалі, што тэлефон не возьмуць. Маўляў, за зарадную прыладу ў апараце яны не адказваюць. Ці так гэта?*

**Марыя ШЭЛЕГ,**
**Асіповічы.**

— Не. Зарадная прылада ўваходзіць у камплект тэлефона, а значыцца, на яе распаўсюджваецца гарантыя.

СЛОВА ЎДЗЯЧНАСЦІ

## Мой боль раздрабілі ўшчэнт

Гэты боль прыходзіў да мяне неаднойчы і штораз — старанна, быццам па нейкай спецыяльнай праграме. Недзе на мяжы ўсведамлення ўзнікала ўпэўненасць, што я пачынаю рассыпацца на асобныя клеткі такім жа чынам, як у дзяцінстве, падсыхаючы на паветры, на асобныя пясчынкі рассыпаліся злепленыя з сырога жоўтага пясочку просценькія пірагі. Ратунак ад гэтага болю меўся толькі адзін — "хуткая дапамога" і ўколы, якія здымаюць боль.

Калі не дапамагалі і ўколы, прыйшлося пагадзіцца на шпіталізацыю. У бальніцы высветлілася, што крыніцай майго болю быў камень у адной з нырак. Менавіта яго ўдалося знішчыць дактарам аддзялення ўралогіі №2 чацвёртай клінічнай бальніцы Мінска. Улічваючы мой узрост і агульны стан здароўя, урачы не сталі рабіць звычайную аперацыю, а з дапамогай сучаснай апаратуры раздрабілі ўшчэнт мой камень, хоць гэта было няпроста: камень не проста "ляжаў" у нырцы, а як бы блукаў па ёй. Я нарэшце пазбавіўся ад страшэннага болю...

Сёння шмат ідзе гаворкі аб праблемах аховы здароўя, многа пішацца пра заробкі медыкаў, якія не адпавядаюць складанасці выконваемай імі работы. Тым больш хачу падзякаваць уролагам Ігару Аляксандравічу Купаво, Аляксею Ігаравічу Пятрову, Кірылу Алегавічу Абразкову, Анатолю Фёдаравічу Барадзені, медсёстрам Людміле Аркадзьеўне Дычук, Лізе Радзечка і Іне Вачынскай за іх адданую працу.

Добрага здароўя Вам, шаноўныя медыкі!

**Міхась ЗАПОЛЬСКІ.**

*Мінск.*

КОРОТКО

## Франция: националисты в шаге от власти?

Французская партия ультраправых "Национальный фронт" находится в шаге от прихода к власти в стране, заявил премьер-министр **Мануэль Вальс.** Согласно проведенному недавно социологическому опросу, лидер "Национального фронта" **Марин Ле Пен** обошла по популярности нынешнего президента страны **Франсуа Олланда.**

По словам Вальса, выступавшего на съезде социалистических партий в Болонье, нынешнему правительству социалистов во Франции необходимо изменить тактику своих действий, чтобы предотвратить угрозу прихода к власти ультраправых. *"Как человек левых взглядов, я никогда не смогу этого допустить,* — сказал французский премьер, — *так как при таком исходе в первую очередь пострадают самые обездоленные".*

*"Это станет ужасным, а может быть, и смертельным ударом для Европы",* — добавил он. Следующие президентские выборы пройдут во Франции в 2017 году.

## Лига арабских государств договорилась о борьбе с «ИГ»

Министры иностранных дел стран, входящих в Лигу арабских государств, договорились принять все необходимые меры для борьбы с "Исламским государством".

Участники встречи в Каире высказались в поддержку резолюции Совета Безопасности ООН, принятой в августе и призывающей перекрыть потоки материальной, военной и финансовой помощи экстремистам в Ираке и Сирии.

СЛЫШАЛИ?

## В Москве готовится «Марш мира»

Оппозиция подала в мэрию Москвы заявку на проведение 21 сентября "Марша мира", об этом сообщил "Интерфакс" один из организаторов антивоенной акции Петр Царьков.

Основные требования — прекращение агрессивной внешней политики России и кровопролития на юго-востоке Украины.

По словам Царькова, так называемый "антивоенный марш" пройдет в формате шествия без митинга. Заявленное число участников акции — до 50 тысяч. Организаторы просят согласовать маршрут шествия по бульварам от Пушкинской площади до проспекта Сахарова под лозунгами "Нет войне с Украиной", "Хватит врать и убивать". Аналогичные акции запланированы в Екатеринбурге, Новосибирске, Барнауле и других городах.

СТОП-КАДР!



Выпускнікі Індыйскай паліцэйскай акадэміі пераадольваюць вогненную перашкоду.

ШЧЫРАЯ РАЗМОВА

# «Украінцы цяпер для нас замежнікі...»

*Карэспандэнт "Народнай Волі" патэлефанаваў у Крым і даведаўся, чым жывуць мясцовыя жыхары пасля рэферэндуму па далучэнні Крыма да Расіі.*

Сёлета, упершыню за апошнія 28 гадоў, я не паехаў у Крым. Хаця магчымасць для гэтага ёсць — у Еўпаторыі, якая асабіста для мяне заўжды была часткай незалежнай Украіны, жывуць сваякі. Яшчэ год таму яны мелі ўкраінскія пашпарты і цалкам падтрымлівалі палітыку, якую праводзіў Віктар Януковіч.

Мая цётка Лідзія Іванаўна ўсё жыццё адпрацавала кладаўшчыцай на адным з заводаў Еўпаторыі. Яе пенсія пры Януковічу складала 980 грывень, што тады было эквівалентна 120 доларам. Яна асабліва не скардзілася на жыццё, старалася выкручвацца. Амаль як усе ў Еўпаторыі, здавала жыллё курортнікам. За гэта яны з мужам Валерыем Мікалаевічам і жылі. Любімая прымаўка цёткі гучала так: "Лета ў нас зіму корміць". Маўляў, сродкі, якія ўдасца зарабіць, засяляючы прыезджых у сезон, трэба расцягнуць да наступлення новага лета. Дарэчы, іх дыхтоўны, татарскага тыпу дом рэдка пуставаў — адбою ад курортнікаў не было.

Напярэдадні рэферэндуму ў сакавіку бягучага года я патэлефанаваў у Еўпаторыю і са здзіўленнем даведаўся, што мае сваякі літаральна спяць і бачаць, каб іх "забраў Пуцін". Цётка так тады і сказала: "Калі ён нас не забярэ, мы зусім прападзём". Я, мне здавалася, лагічна ёй супярэчыў: раней не прапалі, і далей не прападзяце. А Крым павінен застацца Украінай, даводзіў я, нават з простага абывацельскага пункту гледжання.

Заўважу: яшчэ да рэферэндуму ў Крыме адключылі ўсе ўкраінскія тэлеканалы, іх месца заняла расійская тэлепрапаганда. Яе ахвярамі, мяркую, сталі ў тым ліку і мае сваякі. Дарэчы, і зараз у Крыме транслююцца толькі расійскія каналы і адзін мясцовы — "Крым".

...Тэлефаную цётцы. Лідзія Іванаўна ніколі не хавала, што разам з мужам яны добраахвотна прагаласавалі за ўваходжанне Крыма ў склад Расіі. Зараз расказвае, што таксама добраахвотна яны здалі пашпарты на "перапрапіску". Тут, паводле яе слоў, ім у нейкім сэнсе пашчасціла — іх не прапісалі ў Магадане, Новасібірску ці Уладзівастоку, як здарылася з многімі крымчанамі. У іх пашпартах з двухгаловым арлом на вокладцы значыцца "Расія, Еўпаторыя".

— Зараз мы расіяне, — не без гонару кажа Лідзія Іванаўна.

Я пытаюся:

— А як жа патрыятызм? Вы ж заўсёды былі ўкраінцамі. Як мінімум ваша каларытнае "шо" замест расійскага "что" выдавала ў вас прыналежнасць да Украіны.

— Галоўнае, ведаеш, пенсію праіндэксавалі, — парыруе цётка. — Зараз у мяне атрымліваецца амаль 7000 расійскіх рублёў. Гэта каля 200 долараў, значна болей, чым пры Януковічу. Вось і ўвесь патрыятызм.

Заводжу размову пра цэны. Кажу, што чытаў пра тое, што кошты ў Крыме выраслі літаральна на ўсё, цэны падагналі да расійскіх. І тут цётка прызнаецца, што сапраўды: у магазін зараз прыйдзеш — за галаву хапаешся ад новых коштаў.

— Напрыклад, з свініну або ялавічыну не бяру, купляю толькі курыцу, — кажа Лідзія Іванаўна. — Стараемся эканоміць, тым больш што сезон правальны атрымаўся. Кілаграм бульбы каштуе 20 рублёў (*6 тысяч беларускіх.* — **Аўт.**), курыныя яйкі — 40 (*12 тысяч*), вінаград па такім жа кошце, персікі — 85 (*26 тысяч*), свініна і гавядзіна па адной цане — 270 (*80 тысяч*), куры — 110 (*32 тысячы беларускіх рублёў*), цвёрды сыр 225 (*65 тысяч*). І гэта ўсё значна даражэй, чым да рэферэндуму.

Лідзія Іванаўна кажа, што да цэннікаў у расійскіх рублях крымчане прызвычайваюцца паступова.

— Даходзіць да смешнага, — гаворыць яна. — Расійскіх капеек не хапае. І калі няма чым даць рэшту ў магазіне, нам прапаноўваюць альбо гуркі, альбо запалкі. Але навошта мне тыя гуркі, калі сваіх няма куды падзець...

На пытанне, што даў асабіста ёй прыход Расіі ў Крым, цётка адказвае:

— Ты ж помніш, што ў нас заўжды былі праблемы з прэснай вадой. Яна была "мёртвая", хларыраваная, з-пад крана яе піць было нельга. Дык вось зараз прабураны новыя свідравіны, вада стала саладзейшай і лепшай... А так, па сутнасці нічога не змянілася, пенсії як не хапала, так і не хапае... Дый курортны сезон атрымаўся правальны.

— За лета ніводнага чалавека не пасяліла, — прызнаецца Лідзія Іванаўна. — Турыстаў было зусім няшмат. Затое ў Еўпаторыі шмат бежанцаў з усходу Украіны. Іх прапаноўваюць браць на пасяленне, нават нейкія грошы за іх размяшчэнне абяцаюць. Але я адмаўляюся, бо невядома, на колькі тыя бежанцы тут застануцца. Мне гэта эканамічна нявыгадна. Дарэчы, украінцы цяпер для нас замежнікі, ім дазволена знаходзіцца на тэрыторыі Крыма не больш за 90 сутак, потым трэба ісці і станавіцца на ўлік у спецыяльную камісію, якая займаецца іх справамі.

Напрыканцы размовы цётка бадзёра заўважае:

— Гэта ўсё часовыя цяжкасці. Мы спадзяёмся, што новы сезон будзе больш ўдалым, да нас паедуць турысты. Жыць стане лепш...

Яно, можа, і будзе лепш, але асабіста я пасля званка ў Крым злавіў сябе на думцы, што мы, беларусы, падобныя да крымчан. Унутры многіх з нас сядзіць тая самая рабская псіхалогія: пенсіі плацяць — добра, заробку на ежу хапае — выдатна. І мы яшчэ дзякуем за гэтыя падачкі вышэйшаму кіраўніцтву краіны...

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**







ДРЕВНЕЙШАЯ ЗАГАДКА

# Почему мы зеваем?

Многие считают, что первым исследователем феномена зевоты еще 2500 лет назад был Гиппократ. Знаменитый древнегреческий врач считал, что зевота помогает организму освободиться от вредного воздуха, особенно при повышенной температуре.

Различные варианты этого объяснения преобладали в Европе до XIX века, когда ученые предположили, что зевота помогает дыханию, активизируя подачу в кровеносную систему кислорода и стимулируя вывод из нее углекислого газа.

Если бы так было на самом деле, наверное, люди зевали бы более или менее регулярно, в зависимости от уровня кислорода и углекислого газа в окружающем воздухе. Но когда ученые решили проверить эту теорию, предложив добровольцам вдыхать различные смеси газов, это никак не повлияло на частоту зевков.



Фиделя Кастро довела до зевоты речь Билла Клинтона в ООН.



Маргарет Тэтчер не могла сдержать зевоты во время одного из совещаний по европейской безопасности.



Госсекретарь США Уоррен Кристофер не удержался от зевоты даже во время выступления Мадлен Олбрайт в ООН.

ЧТО ТАМ, В УКРАИНЕ?

## 12 пунктов о мире

С востока Украины приходят сообщения об обстрелах позиций украинских войск, несмотря на вступившее в силу 5 сентября соглашение о перемирии. Корреспондент Би-Би-Си наблюдал перестрелку поблизости от донецкого аэропорта. В ночь на воскресенье сильному обстрелу подвергся Мариуполь, погибла жительница города.

Соглашение состоит из 12 пунктов, обнародованных Организацией по безопасности и сотрудничеству в Европе.

Наряду с уже известными пунктами — прекращением огня, обеспечением доставки гуманитарной помощи населению в зоне конфликта, началом внутриукраинского политического диалога, освобождением насильственно удерживаемых лиц — достигнутые договоренности включают в себя особый статус Донецкой и Луганской областей в рамках Украины.

Верховная Рада должна принять специальный закон и обеспечить проведение в этих областях досрочных выборов в местные органы власти, организовать мониторинг ситуации на российско-украинской границе силами ОБСЕ, а также амнистировать участников боевых действий, предоставив гарантии личной безопасности участникам будущих переговоров.

## ОБСЕ начала мониторинг прекращения огня в Украине

Организация по безопасности и сотрудничеству в Европе (ОБСЕ) расширила миссию по контролю за соблюдением режима прекращения огня на востоке Украины. Об этом заявил председатель организации, глава МИД Швейцарии **Дидье Буркхальтер.** В частности, он сообщил, что в Украину в течение последних двух дней направлено 59 специалистов с опытом мониторинга прекращения огня и сейчас нанимаются новые наблюдатели.

## Встреча, о которой знает ограниченный круг лиц

В воскресенье 7 сентября украинское информационное агентство УНН со ссылкой на неназванный источник сообщило, что в Киеве состоялась встреча между президентом Украины Петром Порошенко и советником главы РФ Владиславом Сурковым.

По данным агентства, о встрече знает ограниченный круг лиц. В Администрации президента Украины не смогли ни подтвердить, ни опровергнуть эту информацию.

Как пишет УНН, ранее неоднократно сообщалось о том, что Сурков является "спецпредставителем" Путина в Украине.

В свою очередь западные эксперты не раз называли Суркова "теневым режиссером" захвата Крыма. Именно этим объясняется попадание его имени в санкционные списки, введенные Западом.

Владислав Сурков до декабря 2011 года занимал пост первого замруководителя Администрации президента РФ, курировал вопросы внутренней политики. С декабря 2011-го по май 2013 года — вице-премьер правительства РФ. Был отправлен в отставку.

У НИХ...

## Европейцы хотят стареть в Португалии

Солнце, мягкий климат, безопасность традиционно притягивали в Португалию пенсионеров из-за рубежа. Сегодня пожилых иностранцев может заинтересовать нововведение — отмена подоходного налога сроком на 10 лет.

Агентства недвижимости шире открывают двери: заявок на поиск домов и квартир от иностранцев-пенсионеров становится все больше. Агентство Паскаля Гонсалеса в Алгарве в прошлом году зафиксировало 40-процентный рост спроса именно от этой группы клиентов. Хозяин рассказывает: *"Больше всего заявок — со стороны французских пенсионеров. Есть у нас и клиенты из Швеции, им хочется пожить на солнце. Британцев также немало, а теперь мы ждем, когда к нам начнут обращаться немцы".*

Пока иностранные пенсионеры планируют дорогостоящие покупки на новом месте, португальские пенсионеры ищут продукты подешевле. В стране продолжается режим жесткой экономии, введенный на волне кризиса. Он предполагает, в частности, сокращение пенсий и зарплат для населения и увеличение налогов. По логике властей, приток в страну обеспеченных иностранцев позволит существенно пополнить казну — гораздо больше, чем если бы иностранцы платили в Португалии налоги.

Представитель Министерства регионального развития **Педро Ломба** рассказывает: *"Местное население знает, что со временем мы вернем им пенсии и зарплаты в полном объеме. Надо только на ноги встать. А что касается иностранцев, то их приток в нашу страну очень позитивно влияет на экономику. Они покупают тут дома, квартиры, мебель, машины, живут в обществе. Именно благодаря им мы и надеемся в среднесрочной перспективе помочь нашим собственным пенсионерам".*

По данным властей, в 2012-м жить в Португалию перебралось 949 иностранцев в возрасте за 65. В 2013-м их было на треть больше. Примечательно, что налоговые льготы распространяются не только на пенсионеров, но и на людей работоспособного возраста — архитекторов, инженеров, врачей, ученых, получающих доход из иностранного источника.

Адвокат **Фернандес Феррейра** поясняет: *"Цель этой программы — привлечь в страну талантливых и платежеспособных людей. Тех, кто имеет источники дохода за пределами Португалии. Речь может идти о пенсии, зарплате, ренте, дивидендах — любой форме дохода".*

Платежеспособных иностранцев и вправду принимают здесь с распростертыми объятиями: власти утвердили режим "золотая виза". Речь идет о предоставлении любому лицу права на получение временного вида на жительство. При условии, что человек приобретет в Португалии недвижимость на пол-миллиона евро, инвестирует в экономику 10 миллионов или поспособствует созданию 10 рабочих мест.

**Андрей СЕРГЕЕВ.**

У СУСЕДЗЯЎ

## Як жыве польскі беспрацоўны?

Напрыканцы другога квартала бягучага года 527 тысяч беспрацоўных Польшчы не рабілі нічога, каб знайсці платны занятак, нават у ценявой зоне. Пра гэта сведчыць даследаванне эканамічнай актыўнасці насельніцтва, праведзенае Галоўным статыстычным упраўленнем.

Чаму такую пасіўнасць праяўляюць беспрацоўныя Польшчы? Спецыялісты звяртаюць увагу, што ў польскай эканоміцы ствараецца недастаткова працоўных месцаў. Частка людзей адмовілася ад пошукаў працы, паколькі вырашыла, што выкарыстала ўжо ўсе магчымасці. Іншых расчаравалі мала прывабныя прапановы або адмоўны досвед калег. "Беспрацоўныя шукаюць працу, але не за любую цану", — кажа эканаміст банка „РКО ВР" **Караліна Сэндзімір.** Паводле яе слоў, перш за ўсё гэта тычыцца асоб сярэдняга і старэйшага ўзросту, якія раней зараблялі даволі добра. Яны выбіраюць жыццё за кошт раней назапашаных сродкаў ці сацыяльнай дапамогі. Дарэчы, дапамога па беспрацоўі ў Польшчы — каля 200 долараў у месяц, або ў дзесяць разоў большая, чым у Беларусі.

ЦІКАВЫЯ СУСТРЭЧЫ

# Такі вось Такінданг!

*Ну прыязны ў хлопца твар! Толькі мы ўселіся на лавачцы каля мінскай Ратушы і пачалі размову, як да Андруся падскочыў настырны турыст з Расіі. Не, не з просьбай аб аўтографе — а размяняць буйную купюру на драбязу. Пакуль мой ветлівы субяседнік спрабаваў наскрэбці патрэбную суму, я прыгадала ў памяці гісторыю свайго знаёмства з паэтам, мастаком і музыкай Такінданам. Менавіта яму даручылі рабіць ілюстрацыі да дакументальнага фільма пра трагічны лёс паэта Вінцуся Казлоўскага, пра якога "Народная Воля" таксама друкавала сюжэт. Шчыра кажучы, спачатку я засумнявалася: ці адчуе малады, экзатычны творца, напалову з беларускай, а напалову з афрыканскай крывёй, трагізм мінулай савецкай эпохі? Адчуў!*

## Як стаць вулічным музыкам

**— Андрусь, пачну з кампліменту: вы папулярны на Беларусі дзяцюк — інтэрнэт выдае пра вас сотні спасылак, а жадаючыя могуць бачыць раніцой па тэлевізары ў перадачы АНТ "Беларуская мова" ці сходзіць на ваш канцэрт. Гэта слава?**

— Ну якая ў мяне слава ці нават папулярнасць? Папулярныя — гэта Майкл Джэксан альбо Ала Пугачова. А ў Мінску ўсе людзі проста адзін аднаго ведаюць. У Беларусі не такі вялікі музычны ці мастацкі рынак, таму ўсе, хто займаецца музыкай, — знаёмыя, сябры, таварышы. Так што пра славу казаць, напэўна, не ў маім выпадку.

**— І тым не менш канцэрты гуртоў "Гаротніца" і "Recha", дзе вы граеце на домры і спяваеце, запісаны на тэлебачанні, журналісты наперабой бяруць у вас інтэрв'ю, студыя "Беларусьфільм" зняла пра вас дакументальную стужку.**

— Колькасць інтэрв'ю — не паказчык музычнай папулярнасці, а хутчэй паказчык таго, у якой сферы чалавек працуе. Калі займаешся музыкай ці мастацтвам, сувязь з прэсай уваходзіць у твае нейкія абавязкі. Калі ты робіш канцэрты, то павінен іх анансаваць, даваць інтэрв'ю, нешта расказваць, тлумачыць.

**— Добра, будзем лічыць, што слава яшчэ толькі спускаецца да вас з нябёс і не закруціла галаву. Дарэчы, патлумачце, чаму такія назвы гуртоў — "Гаротніца", "Recha".**

— У "Гаротніцы" спявае жанчына — пра жаночую цяжкую долю. Песні могуць быць трошкі асацыяльныя, дэструктыўныя — адсюль назва.

**— Толькі пра жаночую, а не пра долю краіны? Нашы лепшыя паэты слова "гаротны" ўжывалі звычайна больш шырока — у дачыненні да лёсу Беларусі.**

— Не, сэнс тут скіраваны не на грамадскасць, а хутчэй, унутр асобы. Гэта перажыванні дзяўчыны, жанчыны. Калі капаць глыбей, гэта гаротны заклік душы чалавека аб сваёй долі.

**— Ну хай сабе так: хаця ж у шчаслівай краіне не павінна быць гаротных душ. А як зразумець транскрыпцыю "Recha" — гучыць прыгожа і з сэнсам, а напісана і не па-беларуску, і не па англійску?**

— Лацінкай напісана. Так ужо атрымалася і мы самі прызвычаіліся да напісання "Recha" лацінскімі літарамі. Магчыма, таму, што мы часта выязджаем з канцэртамі ў Польшчу — і суседзям так зручней успрымаць нашу назву.

**— Чытала, што вы часцяком жартуеце з польскімі слухачамі, карыстаючыся сугучнасцю назвы гурта с польскім словам "рэхацца", што азначае — займацца каханнем.**

— Усялякае бывае! — *Крыху сарамліва ўсміхаецца.* — Без жартаў не абыходзіцца.

**— Мне больш да спадобы, як вы называеце свае вулічныя канцэрты — выспай свабоды і сапраўднай радасці. Як прыйшла ў галаву такая ідэя?**

— Аднойчы мы падумалі, што Мінску не хапае вулічных музыкаў. Не тых, хто грае ў пераходах, у шапку, а такіх, што даюць сапраўдныя канцэрты на вуліцы. І мы рашылі сабрацца каля Ратушы. І сыгралі. І ўбачылі, што людзям падабаецца. На жаль, у Мінску гэтым летам мы толькі адзін раз сабраліся разам. Цяжка сабраць увесь гурт, каб выступіць. Затое мы шмат разоў ігралі на вуліцы на розных фестывалях гэтым летам, на фэстах. Мы часта робім вулічныя канцэрты за мяжой.

## За што выганяюць з акадэміі

**— Вы граеце на домры. А здавалася б, гітара больш модная?**

— Яшчэ ў дзяцінстве я пачаў хадзіць у музычную школу па класе домры. Але не завяршыў навучання, таму што паступіў у Каледж мастацтваў. А калі ў маладосці ўзнікла патрэба вярнуцца да музыкі, то ўзгадалася домра як першы інструмент, з якога пачынаў.

**— Дык усё-такі хто вы больш: музыка, мастак ці паэт?**

— Адукацыю я атрымаў мастацкую, бо вучыўся з дзяцінства маляваць. Закончыў Каледж мастацтваў імя Ахрэмчыка, які ў народзе называюць "Парнатам", затым трохі павучыўся ў Акадэміі мастацтваў, адкуль мяне выгналі, пасля чаго паступіў ва Універсітэт культуры і мастацтваў і маю дыплом мастака...

**— Пачакайце, а наконт "выгналі з акадэміі" — было за што?**

— У Акадэміі мастацтваў ёсць такі прынцып — каб зрабіць з цябе мастака, цябе мусяць перамясіць, як цеста, а пасля з яго штосьці вылепіць. Ёсць людзі, якія лепяцца, ёсць тыя, каму ад гэтага цяжка, але яны цярпяць, а ёсць такія, што ламаюцца. Я з тых, хто зламаўся. Чым больш я працаваў і маляваў, тым горш у мяне атрымлівалася. Я пачаў страчваць тое, што меў, і не мог узяць тое, чаму мяне вучылі. Як ні дзіўна, стаў больш-менш адэкватным мастаком, калі мяне выгналі. Нагул, розныя цяжкасці жыцця, розныя зломы жыццёвыя дапамагаюць больш востра адчуваць рэчаіснасць. Музыкі, паэты, мастакі з гэтага выносяць карысць у выглядзе вершаў, песняў, карцін.

Так што цяпер займаюся... усім разам. Менавіта зараз даводзіцца часта маляваць, бо рыхтуюся да выставы. Але і шмат канцэртаў. Таму цяжка размежаваць. І там, і там спрабую нешта зрабіць.

**— А дзе будзе праходзіць выстава?**

— У Вроцлаве — гэта захад Польшчы. Вельмі прыгожы горад, мы яго любім, там шмат канцэртаў іграем. Дамовіліся, што і выстава карцін там пройдзе.

**— Колькі работ туды ўжо нарыхтавалі?**

— Яшчэ не вырашыў, колькі іх там будзе. Хутчэй за ўсё павязу толькі новыя, якіх яшчэ нідзе не бачылі людзі. Нейкую серыю значную паспрабую зрабіць.

**— Купляюць гледачы вашы работы?**

— Было і такое.

**— О, значыць, ёсць такія, хто ацаніў ваш жывапіс?**

— Не думаю, што так. Хутчэй, проста нейкая карціна спадабалася. У мастацтве ў мяне няма нейкага асаблівага імя, каб я быў на слыху ў аматараў жывапісу.

**— Ці блукае далёка-далёка на возеры Чад вытанчаны жыраф?**

**Ой, няма імя! Затое якое прозвішча! Такінданг — гучыць, як авангардны псеўданім.**

— Не, гэта прозвішча натуральнае, сямейнае, паходзіць з Чада, адкуль родам мой бацька. Калі расшыфраваць, то гэта назва замовы, якая выконваецца бацькамі, калі памірае дзіця — такі абрад называецца "Такінданг" і робіцца дзеля таго, каб адвесці смерць ад наступных дзяцей.

**— Вашага бацькі ўжо няма ў жывых?**

— Майго бацьку звалі Баджы, з мамай яны пазнаёміліся падчас вучобы ў БДУ, ён збіраўся стаць матэматыкам, а яна філолагам. Быў ён вельмі добрым чалавекам, надзвычай добрым, вазіў мяне, малога, па Маскве ў таксі, каб я заснуў, размаўляў на французскай мове. Я быў малы, калі бацька ад'язджаў у Чад. А калі зноў вярнуўся да сям'і, я ўжо быў дарослым чалавекам, мы жылі некалькі гадоў разам. А потым ён памёр, у 53 гады.

**— Сумная гісторыя, і жыццё занадта кароткае.**

— На самай справе гэта крытычны ўзрост для многіх мужчын, нават у Беларусі. Проста жыццё ў бацькі было цяжкое, нервы яму павымала. Ён жа і ў вайне прымаў удзел, і ўцекачом быў. Хаця ў людзей бывае і горш. А ім пашчасціла пасля разлукі сустрэцца... Пасля смерці мы з мамай павезлі яго хаваць на радзіму, у Чад.

**— І як там усё адбывалася??**

— Мне тады крыху за 20 было. У Чадзе аказалася шмат родных мне людзей, сваякоў, блізкіх — і я са сваім колерам скуры там нічым не вылучаўся. Хаця я і тут нічым не вылучаюся, але там я зразумеў, што для іх таксама свой. Там вельмі простыя зносіны між людзьмі, людзі радасныя, шмат размаўляюць, знаходзяцца на ўздыме, эмацыйныя — і гэта было цікава. Нават, калі бракавала маёй французскай мовы, то пачуцця адзінства і супольнасці не бракавала і было цудоўна.



**— Чытала, як вам там крэсла выносілі, быццам каранаванай асобе?**

— Там адносіны між людзьмі крышку іншыя, там дзеці на гаспадарцы, выконваюць нейкую працу. Калі за мной дзяўчына вынесла крэсла, гэта мяне здзівіла. Дзеці там тапачкі прыносілі, дарослым ставілі. За стол найперш сядалі мужчыны. Відаць, што так было і ў нас гадоў 100 назад, калі ў сем'ях быў гаспадар і яго слухаліся.



**— А мне падчас вашага ўспаміну прыгадаліся радкі Мікалая Гумілёва "Далёко-далёко на озере Чад изысканный бродит жираф". Бачылі там жырафаў?**

— Мы жылі ў сталіцы — мо, з тыдзень ці трошкі больш, ездзілі ў заапарк глядзець на малпачак. Бачыў там, што каровы вельмі рагатыя, кузуркі вялікія, сабакі худыя, таму што горача, гіганцкія дрэвы. А больш асабліва і нічога.

**— Вы там былі толькі адзін раз?**

— Так.

**— Не хочацца яшчэ туды наведацца?**

— Хочацца. Думаю, трэба яшчэ абавязкова туды паехаць. І не адзін раз, бо сваякі ёсць сваякі. У мяне і ў Беларусі добрыя вельмі адносіны з маімі роднымі, я разумею, што такое сям'я, што сваякі павінны бачыцца, сустракацца, быць у кантакце.

## Ці трэба вучыць бабулю інтэрнэту

**— Але пакуль вы часцей ездзіце да бліжэйшай, геаграфічна, радні. Да сваёй бабулі на Лепельшчыну, так?**

— Так, у вёску Чэрцы, адкуль родам мая мама. Я там хадзіў у школу да пятага класа. Жыў у дзядулі і бабулі. Дзядуля, Андрэй Васільевіч, выкладаў у школе фізіку — прычым на беларускай мове. Ён іграў на баяне на ўсіх школьных святах, на вечарынках вясковых выступаў. У яго і мандаліна была, і ў музычным гурце ён удзельнічаў. Ён быў чалавекам адораным, мог намаляваць нейкі плакат, калі ўзнікала патрэба. Дзядуля памёр, а бабуля, Яўгенія Іванаўна, дагэтуль сябе добра адчувае, у курсе ўсіх спраў, мае вострыя розум, ва ўсім разбіраецца, дзякаваць Богу.

**— Кажуць, бабуля вам спявала калыханкі, праўда, рускамоўныя.**

— Бабуля мая пявуння, спявае савецкі рэпертуар, ваенна-патрыятычныя песні.

**— А думае яна таксама па-савецку?**

— Мая бабуля найперш чалавек вельмі разумны і вельмі моцны. З годнай сваёй пазіцыяй. Яе нельга прылічыць да якой-небудзь катэгорыі, яна не стэрэатыпны тыпаж. Яна спявае савецкія песні, але мае крытычны пагляд на падзеі. Яна можа акрэсліць канкрэтна, што ёй падабаецца, а што не. У школе яна выкладала рускую мову і літаратуру.

**— Бабуля з дзядулем расказвалі вам пра мінулае?**

— Вельмі часта. Я і цяпер яе распытваю. Мы гадзінамі размаўляем. Пра вайну, пра людзей, пра ўзаемаадносіны, пра сям'ю. Пасля яна можа даваць нейкія ацэнкі сучаснасці.

**— А на якой мове вы гутарыце?**

— На вясковай беларускай.

**— Пэўна, ганарыцца бабуля ўнукам, глядзіць усе перадачы з вашым удзелам.**

— Глядзіць, яна ў курсе ўсіх падзей.

**— А інтэрнэт не засвоіла яшчэ?**

— Няма камп'ютара.

**— Вы ў 10 год хрост прынялі і каталіком сталі. Дзякуючы бабулі ці па іншых прычынах?**

— У мяне дзядуля праваслаўны, але не хадзіў у царкву. Бабуля каталічка, але таксама не была практыкуючай верніцай. Цяпер яна больш-менш моліцца. Прабабуля была вельмі веруючай, я яе не заспеў, але чуў пра гэта. Магчыма, таму, а магчыма тое, што касцёл цалкам беларускамоўны і зразумелыя набажэнствы, я стаў каталіком. Як кажуць, калі молішся на роднай мове, малітва ў сэрца пранікае. Дарэчы, хрысціліся мы ў адзін дзень з мамай — у лепельскім касцёле Святога Казіміра.

**— Далёка ездзіць у вёску?**

— 170 кіламетраў ад Мінска. Вёска вельмі прыгожая, прырода і мясціны вакол цудоўныя. Дзядуля з бабуляй раней трымалі каня, карову, свіней, а цяпер у бабулі толькі каты і куры. Увогуле, у вёсцы ўжо кароў няшмат. Нядаўна тыдзень там быў — маляваў-маляваў-маляваў.

**— А на чым звычайна дабіраецеся?**

— Езджу на аўтобусе, на маршрутцы. Бывае, з дзядзькам на машыне.

**— А свайго аўтамабіля яшчэ не купілі?**

— Не, у мяне і правоў няма.

**— Чаму ж так? Трэба здаваць!**

— Калі трэба, значыць, буду, — усміхаецца.

### ТРЫ ШТРЫХІ ДА ПАРТРЭТА

Падчас вучобы ў "Парнаце" Андрусь разам з аднакурснікамі імкнуўся выглядаць адметна. І хаця тады моднае адзенне было дэфіцытам, дабывалі і рвалі джынсы, стрыглі на галаве іракезы, размалёўвалі майкі, апраналі шэрыя паліто і берцы. Менавіта ў каледжы сябры празвалі яго Андрусём.

Андрусь вельмі ўдзячны за дапамогу і падтрымку сваёй маме — Але. Бо разумее, як цяжка быць мамай мастака і ўдвая цяжэй, калі той яшчэ музыка.

Бацька Андруся добра размаўляў на французскай мове. А сам Андрусь можа "дамовіцца" па-французску толькі са зводным братам з Чада, якому хапае цярпення разбіраць акцэнт і тлумачыць памылкі мінскага родзіча. А вось у Польшчы на канцэртах Такінданг спакойна размаўляе з польскімі музыкамі па-польску, бо, як сам кажа, для сапраўднага беларуса гэта не праблема.

## Што будзе ў Беларусі праз 10 год?

**— А ў вас сям'я ёсць?**

— У якім сэнсе? — пасля паўзы.

**— Ну, вы ж расказвалі журналістам пра нешчаслівае каханне. Але ж сітуацыя магла змяніцца да лепшага?**

— А, жонка? Не, я не жанаты.

**— Нарэшце сустрэлі сапраўднае каханне?**

— На маю думку, ідэальная сітуацыя, калі ёсць не першае, а потым другое каханне, а ёсць сапраўднае, шчаслівае. На жаль, не заўсёды так здараецца, таму трэба хаця б выносіць нейкую карысць ці досвед. Нешчаслівае каханне творцам дае імпульс да работы, новыя пачуцці, як і іншыя складанасці жыцця.

**— Вы лічыце сваёй радзімай Беларусь. А якім вам бачыцца вобраз гэтай радзімы?**

— Радзіма — гэта там, дзе табе добра, зручна, дзе ты разумееш хаду часу, логіку дзеянняў, людзей. Радзіма — там, дзе ты можаш спакойна шпацыраваць па горадзе, дзе ў цябе ёсць шмат знаёмых, сяброў, сваякоў. Радзіма — гэта тое месца, за якое ты адчуваеш адказнасць. І звязваеш трагедыі і ўдачы гэтага месца са сваім лёсам.

**— І ўсё гэта — Беларусь, так?**

— Так, хаця і ў Чадзе я таксама адчуў, што вакол мяне родныя людзі.

**— Покліч крыві, разумею. Той яе часткі, што дасталася ад бацькі. Такі ваш лёс — дзяліць сваё сэрца, бо выбралі месцам жыцця, кар'еры, творчасці Беларусь. Ваш прагноз: праз 10 год што будзе з вамі і краінай?**

— Я спадзяюся, што ў мяне будзе сям'я, што я буду працягваць займацца мастацтвам, музыкай, што дзеці будуць, калі Бог дасць. Ну а наконт краіны — я спадзяюся, што будзе ў нас спакойна, не будзе закалотаў праз 10 год, людзі будуць вальней пачувацца, радасці будзе трошкі больш, бо жыццё ідзе наперад. Раней мы пра камп'ютары марылі, а цяпер у кожнага па 2 штукі, ва ўсіх тэлефоны мабільныя. Адзінае — каб гэтаму ўсяму людзі ўмелі радавацца і карыстацца гэтым адэкватна.

**— Ну, вашы словы ды Богу ў вушы!..**

**Людміла СЯЛІЦКАЯ.**

СТОЛИЦА

# На День города с большой сумкой не пустят

*В Минске 13 сентября в День города пройдут около 50 праздничных мероприятий. Основная площадка — зона гостеприимства у Дворца спорта.*

Как сообщила на пресс-конференции первый заместитель начальника Главного управления идеологической работы, культуры и по делам молодежи — начальник управления культуры Мингорисполкома **Виталина Рудикова,** состоится концерт в рамках Второго международного фестиваля искусств белорусов мира. Выступят творческие коллективы более чем из 15 стран.

Также у Дворца спорта организуют выставку техники крупнейших промышленных предприятий. Развернется торговля с широким ассортиментом национальных блюд.

Торжественная церемония возложения венков и цветов к обелиску "Минск — город-герой" состоится в 21.30. После этого в 22.00 столичное небо осветит красочный фейерверк.

*— Определены участки, где будет действовать пропускной режим: набережная реки Свислочь, улицы Мельникайте и Машерова, стела "Минск — город-герой", Дворец спорта, Верхний город, студенческая деревня,* — говорит начальник управления охраны правопорядка и профилактики ГУВД Мингорисполкома **Александр Купченя.** *— На площадки запрещено проходить с домашними животными, велосипедами, крупногабаритной ручной кладью, предметами, которые могут представлять угрозу жизни граждан. Нельзя будет проносить алкогольные, слабоалкогольные напитки и пиво.*

К СЛОВУ

## Химчистки и парикмахерские предоставят скидки

*Правда, не всем минчанам, а участникам Великой Отечественной войны, пенсионерам и инвалидам, многодетным семьям. Акция приурочена к Дню города и продлится с 10 по 12 сентября.*

Некоторые парикмахерские в эти дни обслужат ветеранов, пенсионеров, инвалидов, членов многодетных семей бесплатно, другие — со скидкой в 20—50% (скидки на стрижку). Починить обувь и швейные изделия с 10 по 12 сентября в некоторых мастерских также можно будет со скидкой 10—50%, с 30-процентной скидкой отремонтируют ювелирные изделия в мастерских КУП "Аурум".

Скидки на свои услуги в этот период в размере 50% предоставляют прачечные КУП "Чайка", 20% — прачечные ООО "Белвестри". КУП "Белхимчистка" приведет в порядок пальтово-костюмный ассортимент (две единицы) без оплаты срочности, предприятия ООО "Нэштрейд" в эти дни принимают одежду на чистку со скидкой 10%. В ЗАО "Вилия" участники и ветераны ВОВ смогут сделать художественное фото со скидкой 10%, а КУП "Отдых" организует с 10 по 12 сентября почасовой прокат лодок и катамаранов бесплатно (набережная по проспекту Победителей, 2).

Кроме того, 13—14 сентября единый день скидок пройдет в столичных универмагах. Выгодные покупки можно будет сделать в ГУМе, ЦУМе, торговом доме "На Немиге", универмаге "Беларусь" и торговом центре "Кірмаш".

ЧУЛІ?

# За хакейны чэмпіянат ордэны і медалі атрымалі чыноўнікі

*11 чалавек атрымалі разнастайныя ўзнагароды "за значны асабісты ўнёсак у падрыхтоўку і правядзенне чэмпіянату свету па хакеі 2014 года ў Мінску". Адпаведны ўказ Аляксандр Лукашэнка падпісаў 4 верасня.*

Хто ж узнагароджаны?

Ордэн Айчыны III ступені атрымаў старшыня Мінскага гарвыканкама **Мікалай Ладуцька**.

Ордэнам "За службу Радзіме" III ступені ўзнагароджаны начальнік галоўнага ўпраўлення ўнутраных спраў Мінскага гарвыканкама генерал-маёр міліцыі **Аляксандр Барсукоў,** першы намеснік старшыні Дзяржаўнага памежнага камітэта генерал-маёр **Ігар Буткевіч**, начальнік упраўлення нагляду і прафілактыкі Міністэрства па надзвычайных сітуацыях палкоўнік унутранай службы **Уладзімір Рафальскі**.

Прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі хакея **Рэнэ Фазель** адзначаны ордэнам Дружбы народаў.

Ордэнам Пашаны адзначаны старшыня асацыяцыі "Федэрацыя хакея Рэспублікі Беларусь" **Яўген Ворсін**.

Медалём "За працоўныя заслугі" ўзнагароджаны кіраўнік адміністрацыі Заводскага раёна Мінска **Алег Жогла**, начальнік упраўлення бытавога і гатэльнага абслугоўвання насельніцтва Мінгарвыканкама **Андрэй Новікаў**, намеснік міністра адукацыі **Сяргей Руды**, першы намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Мінскага гарвыканкама **Віталіна Рудзікава**, намеснік генеральнага дырэктара ААТ "Мінскпрамбуд" **Уладзімір Тарасевіч**.

Дзіўна атрымліваецца. Чыноўнікі, якія, трэба разумець, добра рабілі сваю работу падчас чэмпіянату і атрымалі за гэта зарплату (думаю, і прэміі) узнагароджаны ордэнамі і медалямі. А прадаўшчыцы, таксісты, пакаёўкі ў гатэлях, у рэшце рэшт шараговыя міліцыянеры — усе тыя, хто больш за два тыдні, колькі доўжыўся чэмпіянат, таксама сумленна працавалі, як кажуць, не пакладаючы рук? І не толькі таму, што начальнікі распарадзіліся, а таму што шчыра хваляваліся за імідж краіны.

Хаця няма чаму здзіўляцца: жыццё беларускага грамадства пабудавана на ўпэўненасці, што нашыя людзі без паганятых не здольныя ні парадак захаваць, ні смачна прыгатаваць, ні прыгожа пачаставаць.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

АФІША

# Купалаўцы пачынаюць сезон у Томску

*Новы, 95-ы, сезон Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы адкрывае спектаклем "Паўлінка"9 верасня ў Томску.*

Сёлета купалаўцы адзначаюць унікальную дату — 70-годдзе славутай "Паўлінкі", пастаўленай Львом Літвінавым у 1944 годзе менавіта ў расійскім Томску, дзе тэатр знаходзіўся ў эвакуацыі падчас Другой сусветнай вайны. Выступленне ў гэтым горадзе асаблівае яшчэ і таму, што трупа вяртаецца ў горад, дзе было прынята рашэнне звярнуцца да Савецкага ўрада з просьбай надаць тэатру імя Янкі Купалы — фактычна звацца купалаўцамі.

Тэатр выступіць у рамках Дзён беларускай культуры па запрашэнні губернатара Томскай вобласці. Апроч "Паўлінкі" падчас гастроляў у Томску Купалаўскі тэатр прадставіць 10 верасня "Ноч на Калядзы" ў пастаноўцы Мікалая Пінігіна і 11 верасня "Офіс" у пастаноўцы Кацярыны Аверкавай.

Абмен гастролямі з Томскім тэатрам упершыню адбыўся ў 1985 годзе. У 2000-м годзе купалаўцаў сустракалі там на фестывалі, прысвечаным 150-годдзю Томскага абласнога тэатра драмы.



ДА ВЕДАМА!

# У Мінскай вобласці сталі часцей губляцца грыбнікі

*Толькі ў гэтым годзе ў міліцыю паступіла больш за 40 паведамленняў аб зніканні людзей.*

Адна з галоўных прычын — няведанне мясцовасці. Таксама, як кажуць міліцыянеры, людзям часцяком робіцца дрэнна ў лесе. На тэрыторыі вобласці зарэгістраваны выпадкі, калі зніклыя ў лясных масівах на працягу некалькіх гадзін і нават дзён знаходзіліся на сувязі са сваімі блізкімі па тэлефоне. Потым сувязь з імі спынялася, пасля чаго сваякі звярталіся ў міліцыю па дапамогу.

Пошукі не заўсёды, на жаль, заканчваліся добра. Таму міліцыя заклікае грамадзян не хадзіць у лес у адзіночку. Лепш узяць з сабой спадарожнікаў. Напярэдадні неабходна падзарадзіць мабільныя тэлефоны, распавесці блізкім, у якую мясцовасць мяркуеце пайсці. Зборам дароў лесу варта займацца ў знаёмым лесе, не заходзячы ў цяжкадаступныя месцы.

Спецыялісты, дарэчы, кажуць, што пасля нядаўніх дажджоў яшчэ месяц у лесе будуць грыбы, таму жадаючых ездзіць за баравікамі і чырвонагаловікамі наўрад ці паменее. Спыніцца грыбны сезон з першымі замаразкамі.

